3 лістапада 2017 | № 41 (555)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

За і супраць Лютэра
Стар. 9

4 ЖЫЦЬ ЦЯЖКА, АЛЕ МОЖНА ТРЫВАЦЬ

Чым больш жорстка АП спрабуе выбудаваць «вертыкаль», тым больш складана прабіцца наверх праўдзівай, але непрыемнай інфармацыі. І ніякімі пагрозамі жорсткіх «арганізацыйных высноў» становішча не выправіць

6–7 ПЕРШЫ МІНІСТР АБАРОНЫ — ГЕНЕРАЛ ПАВЕЛ КАЗЛОЎСКІ



Што зрабіў на сваёй пасадзе першы незалежны міністр абароны Беларусі?

8 ЦІ ПАГРАЖАЕ УКРАІНЕ «БАГДАНАПАД?»



Хаця Хмяльніцкі і быў заснавальнікам Гетманшчыны, ён адназначна выклікае асацыяцыю з Пераяслаўскай радай — прысягай казакоў на вернасць рускаму цару

10–11 ВЯЛІКІ ТЭРОР У БССР

Беларуская савецкая эканоміка працавала нездавальняюча, і кантроль з боку спецслужбаў заўсёды быў яе неад'емнай часткай

# Адвакатура прайграла справу

## Пазбаўленне адвакацкай ліцэнзіі Ганны Бахцінай — крок да канца інстытуту адвакатуры ўвогуле



Сяргей ПУЛЬША

Вядомая адвакатка з 38-гадовым юрыдычным стажам Ганна Бахціна, якая вяла рэзанансныя палітычныя справы, не здолела праз «самы гуманны і справядлівы суд у свеце» дамагчыся аднаўлення адвакацкай ліцэнзіі.

Канешне, Мінюст, які пазачарговa праверыў Бахціну, сцвярджае, што «няма тут ніякай палітыкі», і чалавек, які ўсё жыццё адпрацаваў у пракуратуры і адвакатуры, мае «недастатковую кваліфікацыю». Але, пагадзіцеся, з улікам амаль 40 гадоў бездакорнай працы, такое сцверджанне выглядае смешна.

Мы б, можа, паверылі і ў смешную версію, калі б не перадгісторыя. Цяперашняе пазбаўленне ліцэнзіі — не першая спроба выцiснуць прынцыповую адвакатку з прафесіі. Раней, калі Бахціна ў 2011 годзе абараняла жонку кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Ірыну Халіп, таксама былі спробы пазбавіць ліцэнзіі «няправільнага» адваката.

У 2011-м ліцэнзій пазбавілі шмат якіх «зорак» беларускай адвакатуры: Паўла Сапелку, Тамару Сідарэнку, Уладзіміра Тоўсціка, Алега Агеева... З Бахцінай тады гэты нумар не прайшоў: яна дамаглася адмены рашэння такой жа, як зараз — пазатэрміновай, — атэстацыі і захавала сваю ліцэнзію.

То бок, яшчэ шэсць гадоў таму, з другога разу, але атэстацыйная камісія прызнала Бахціну «адпавядаючай сваёй кваліфікацыі». А зараз адвакат ка сваю кваліфікацыю страціла? Хто ў такое паверыць?

Увогуле, адваката не павінны атэстоўваць нейкія камісіі. Больш, чым камісіі, за адваката кажуць яго кліенты. І з гэтым у Бахцінай усё ў парадку. Ірына Халіп называе Бахціну не проста прафесіяналам. Яна ўзгадвае, што напярэдадні яе прысуду ў яе сына Даніка быў дзень нараджэння. І Бахціна, скарыстаўшыся тым, што толькі яна магла трапіць у кватэру да сваёй падабароннай (Халіп тады была пад хатнім арыштам) прывезла Даніку падарункі...

Эдуард Пальчыс, якога Бахціна бараніла ў 2016-м, кажа, што яна — найлепшая з тых шасці адвакатаў, з якімі ён у сваім жыцці сустракаўся.

Зараз Бахціна абараняе асноўнага фігуранта «справы патрыётаў» Міраслава Лазоўскага. І Ніна Шыдлоўская, якая апякуецца фігурантамі гэтай справы, кажа: «Ганна Бахціна — выключны прафесіянал і сумленны чалавек». А, даведаўшыся пра вырак суду, які адмовіў Бахцінай у аднаўленні яе ліцэнзіі, напісала ў Фэйсбуку: «Маскоўскі раённы суд Мінска сёння зрабіў значна больш і горш, чым пацвердзіў пазбаўленне ліцэнзіі адной з самых вядомых адвакатак Беларусі Ганны Бахцінай. Сёння за некалькі хвілінаў канчаткова былі «пастаўленыя на месца» ўсе адвакаты (якія, дарэчы, як і іншыя катэгорыі нашых суайчыннікаў, асаблівай салідарнасцю не адрозніваюцца)... Ганна Віктараўна, шаноўная і паважаная, мы цэнім Вас!»

Пры ўсёй павазе да Ніны Шыдлоўскай, варта адзначыць, што «ставіць на месца» ў адвакатуры, падаецца, больш няма каго. Бо яшчэ да судовага выраку здарылася самае прыкрае. Высветлілася, што, нават не чакаючы завяршэння суда,



савет Мінскай гарадской калегіі адвакатаў па прадстаўленні Мінюста выключыў Ганну Бахціну з сябраў калегіі. І нават не палічыў неабходным паведаміць пра гэта. Ганна Віктараўна даведалася пра выключэнне наўпрост у судзе.

А вось накont «больш і горш» — варта пагадзіцца. «Справу Бахцінай» прайграла не Бахціна, а ўся адвакатура ў цэлым.

Нашы адвакаты як ніхто іншы павінны ведаць, якім чынам у Беларусі ажыццяўляецца «правасуддзе», — яны з гэтым сутыкаюцца штодня. Таму ў іх галовах заўсёды павінна гучаць песня Вячаслава Бутусава са словамі: «И если есть те, кто приходят к тебе, — найдутся и те, кто придет за тобой...» Сёння прыйшлі па Бахціну. Заўтра прыйдуць па любога адваката. Адседзецца не атрымаецца.

> **Дзе гарантыя, што адпрацаваная схема не будзе выкарыстаная ў дачыненні да іншых адвакатаў?**

Не атрымаецца таму, што ўся беспакаранасць, якая спачатку выяўляецца ў дачыненні да «палітычных», потым абавязкова распаўсюджваецца на астатняе грамадства. У свой час грамада прапусціла беспакаранасць супрацоўнікаў міліцыі, якія збівалі дэманстрантаў і здзекаваліся з пратэстоўцаў. Маўляў, гэта палітыка, мы ў яе не ўлазім. Застаўшыся без пакарання і асуджэння, праваахоўнікі адчулі сваю ўсёдазволенасць — і краіна запоўнілася такімі выпадкамі, як «справа Барбашынскага». Калі звычайнага, шараговага грамадзяніна міліцыянты злавілі на вуліцы, збілі, абвінавацілі ў супраціве міліцыі і пасадзілі ў турму, дзе ён памёр. І ніхто не панёс за гэта адказнасць.

Тое ж самае адбудзецца з адвакатамі. Відавочна, што Бахціна перайшла сцяжынку дзяржаве, абараняючы Пальчыса, Валовіка, Лазоўскага. Адвакацкая супольнасць таксама можа сцвярджаць: «Сама нарвалася, мы ў палітыку не лезем». Але дзе гарантыя, што тая ж схема, адпрацаваная на адвакатах «палітычных», заўтра не будзе выкарыстаная ў дачыненні, напрыклад, да адвакатаў бізнесоўцаў? Дый увогуле любых адвакатаў?

Такой гарантыі не тое што няма — з пазбаўленнем ліцэнзіі Бахцінай з'яўляецца нават верагоднасць далейшага прымянення гэтай схемы ў іншых справах. Ужо ніяк не звязаных з палітыкай. Дарэчы, адвакатцы яшчэ аднаго фігуранта «справы патрыётаў» Наталлі Мацкевіч тая ж камісія прызначыла паўторную атэстацыю праз паўгода.

І цяпер усе адвакаты ведаюць: прафесійная супольнасць за іх не заступіцца. Калі калегія здала нават Бахціну, што можна казаць пра менш «раскручаных» адвакатаў? Хіба за іх хто-небудзь узніме голас?

Таму «справа Бахцінай» — прысуд не аднаму адвакату, а ўсёй сістэме адвакатуры ў цэлым. І ўсім грамадзянам нашай краіны, якія фактычна пазбаўляюцца права на сумленную прафесійную абарону.

# Някляева асудзілі за заклікі, якіх ён не рабіў

**Суд Ленінскага раёна Мінска 1 лістапада разгледзеў адміністрацыйную справу супраць паэта Уладзіміра Някляева.**



Яго вінавацілі па арт. 23.34 КаАП, спасылаючыся на артыкул на сайце «Хартыі», дзе ён нібыта заклікаў да ўдзелу ў акцыі «Марш абураных беларусаў 2.0».

У пратаколе, які разглядала суддзя Святлана Метлянок, не было канкрэтыкі наконт здзейсненага правапарушэння. Тым больш, што Уладзімір Някляеў не даваў інтэрв'ю непасрэдна «Хартыі». Ён прасіў суд далучыць да справы яго інтэрв'ю, якое ён непасрэдна даваў «Белсату», і выклікаць у якасці сведкі першага намесніка старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Алеся Пашкевіча. Суд хадайніцтвы задаволіў.

Сведка патлумачыў, што сакратарыят Саюза пісьменнікаў правodзіў аналіз выказвання Уладзіміра Някляева і прыйшоў да высновы, што публікацыя на «Хартыі» не з'яўляецца першакрыніцай, а проста ўтрымлівае цытату і журналісцкую апрацоўку, якая не супадае з выказваннем для Белсату. Акрамя таго, само выказванне не ўтрымлівае заклiку да ўдзелу ў акцыі, а маецца ў ім толькі сінтаксічная канструкцыя ўмоўнага парадку. Таму СБП прасіў суд аб скасаванні гэтага абвінавачвання.

Мінгарвыканкам у сваім адказе на пісьмовы запыт з суда пацвердзіў, што Уладзімір Някляеў нават не быў заяўнікам акцыі. Удзелу ў акцыі паэт таксама не прымаў.

Да справы таксама быў далучаны ліст ад БАЖ, які правёў параўнальны аналіз артыкулаў на «Хартыі» і «Белсаце». У судзе пагледзелі тэлесюжэт «Белсата», які ўтрымліваў інтэрв'ю паэта.

У сваю чаргу, Беларускі ПЭН-цэнтр выступіў з заявай у абарону Уладзіміра Някляева, у якой адзначыў, што калі суд будзе мець сваім вынікам якое-небудзь пакаранне для паэта, літаратурнае аб'яднанне праінфармуе пра гэты факт Міжнародны ПЭН-клуб з тым, каб яго эксперты выказалі сваё стаўленне да выканання Беларуссю прынятых на сабе абавязальніцтваў у галіне свабоды выказванняў.

Аднак усе гэтыя довады не паўплывалі на разуменне суддзёй сутнасці справы: Святлана Метлянок пакарала Уладзіміра Някляева дзесяцю суткамі адміністрацыйнага арышту.

**Паводле spring96.org**

# ТБМ: з'езд высокіх тэхналогій

Сяргей ПУЛЬША

**Гэта быў самы добра арганізаваны і «высокатэхналагічны» з'езд, на якім я быў. А я быў шмат на якіх з'ездах.**

Упрынцыпе, XIII з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ) рэальна можна было б і не праводзіць. Чаму? Таму што ў ТБМ лепш за ўсіх навучыліся карыстацца новымі тэхналогіямі.

Усё, што было на з'ездзе, ужо было трансліравана ў публічную прастору праз сайт арганізацыі. На сайце ТБМ было выкладзена ўсё — ад распарадку дня да справаздачаў і праектаў рэзалюцый. Кожны дэлегат мог загадзя выказацца і па праграме з'езда, і даслаць свае заўвагі да рэзалюцый, і прапанаваць нешта сваё.

Карацей, засталося толькі дадаць на сайце ТБМ форму, у якой дэлегаты маглі б аўтарызавацца праз Google альбо Facebook, і прыкруціць «галасавалку» па праектах рэзалюцый і за новае кіраўніцтва. І з'езд можна было б правесці ў інтэрнэце.

Але, на жаль, айчыннае заканадаўства пакуль не прадугледжвае анлайн-з'ездаў. Таму ТБМ давялося марнаваць грошы на арэнду залы, праезд дэлегатаў, іх харчаванне і ўсё такое іншае.

У сваёй справаздачы старшыня арганізацыі Алег Трусаў каротка прабегся па дасягненнях і задачах таварыства на наступны перыяд.

А сярод дасягненняў у тым ліку і тое, што Алена Анісім — дэпутат парламента. Зарэгістраваны Нацыянальны ўніверсітэт, дарабляецца яго статут. Прэса шмат пісала пра агульнанацыянальныя дыктоўкі, а нядаўна беларускі парламент прыняў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб культуры, напісаны толькі па-беларуску. Дзякуючы намаганням ТБМ, у артыкуле 69 гэтага Кодэкса запісана: «Да нематэрыяльных культурных каштоўнасцяў адносіцца беларуская мова (вусная і пісьмовая), іменаслоўныя традыцыі і традыцыйная форма звароту да людзей». Гэты сказ будзе карысны падчас спрэчных пытанняў у пашпартных сталах ці іншых установах краіны.

Канешне ж, у сваёй справаздачы спадар Трусаў паспрабаваў пазначыць далейшы накірунак развіцця арганізацыі. Паводле яго меркавання, ТБМ трэба ўжо менш спадзявацца на ўладу і заклікаць яе нешта зрабіць. А пачынаць (дакладней, працягваць) працу, разліваючы на свае сілы.

Ён адзначыў, што пасля анексіі Крыма і вайны на Данбасе над краінай навісла пагроза страты незалежнасці. А таму роля працы па пашырэнні беларускай мовы значна ўзрастае. І, паколькі гэтым не заклапочаны ўлады, то «наспеў час стварыць у краіне сістэму прыватнай беларускамоўнай адукацыі ад дзіцячых садкоў да нацыянальнага ўніверсітэта з дапамогай уласных сродкаў». «Папулярная ў Беларусі рускамоўная газета «Камсамольская праўда» адзначае, «што ў апошні час ёсць усё больш запытаў на беларускамоўных нянек» для маленькіх дзетак. Калі бацькі знаходзяць грошы на беларускамоўную няньку, то яны знойдуць іх на беларускамоўную школу ці гімназію», — лічыць Трусаў. І бачыць дзейнасць ТБМ у новых умовах як згуртаванне аднадумцаў, «якія не лямантуюць, што ўсё страчана, а ўмеюць гуртавацца, працаваць у камандзе і знаходзіць грошы на сваю дзейнасць».

Сам Трусаў, як даўно і абяцаў, сыходзіць з пасады старшыні ТБМ і будзе займацца Нацыянальным універсітэтам.

У гэтых умовах была адзіная інтрыга: хто стане лідарам ТБМ замест Алега Трусава? Фаварытам выбараў была Алена Анісім, але шмат у каго ўзнікалі пытанні: ці не занадта яна занятая дэпутацкай дзейнасцю, каб яшчэ і арганізацыяй кіраваць? Альбо, можа быць, «па шматлікіх просьбах працоўных» Трусаў усё ж зменіць сваё рашэнне пра сыход?

Але гэта быў відавочна не той выпадак, калі здзяйсняюцца цуды. І ўжо праз гадзіну пасля пачатку з'езду (рэкорд па часе выбараў) Алена Анісім стала новай старшынёй Таварыства беларускай мовы. А Алег Трусаў застаўся ганаровым старшынёй арганізацыі.

З'езд ТБМ прыняў дзве кароткія рэзалюцыі — пра неабходнасць беларускамоўнай вышэйшай адукацыі і пра тое, каб парламент прымаў законы адразу ў дзвюх версіях: рускай і беларускай (каб не было потым працы ТБМ па перакладу тых жа Правіла дарожнага руху на беларускую мову). І тры пастановы: пра электронную версію газеты «Наша слова», пра арганізацыю прыватнай гімназічнай беларускамоўнай адукацыі і галоўную — «Аб унясенні ў парадак дня сесіі Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь законапраекта «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы». Гэты законапраект быў распрацаваны даўно. Зараз сакратарыяту ТБМ трэба крыху яго паправіць, а Алене Анісім — вынесці на разгляд парламента.

# Пошук працы: выпрабавана на сабе

**Сяргей, чытач «Салідарнасці» з Мінска, распавёў пра тое, як няпроста ў нашы дні знайсці працу.**

Пошукі працы поўныя сюрпрызаў. І самы непрыемны з іх — гэта калі ў аб'яве наконт вакансіі напісана адно, а на справе аказваецца зусім іншае. Менавіта з такой непрыемнасцю нашаму чытачу Сяргею давялося сутыкнуцца на адной з птушкафабрык, размешчанай у Мінскай вобласці, куды ён адправіўся на сумоўе.

— У аб'яве гаварылася аб рэжыме работы два праз два, са зменамі працягласцю ў 12 гадзін. Зарплата — 1000 рублёў. Як высветлілася пазней, многія купіліся менавіта на гэтую магічную лічбу, — распавёў Сяргей.

На сумоўе ён прыехаў загадзя. Давялося чакаць, але гэта гадзіна ля прахаднoй прадпрыемства стала вызначальнай:

— Каля ўваходу на лавачцы сядзеў мужчына з абыходным лістом. Спачатку я падумаў, што ён збіраецца ў адпачынак. Але потым каля аддзела кадраў выстраіліся дзве чаргі. Высветлілася, што з такімі абходнымі лістамі адны ішлі ўладкоўвацца на працу, іншыя — звальняцца.

Як аказалася, тых, хто звальняецца, і «новенькіх» было прыкладна пароўну. Зрэшты, па словах Сяргея, людзей у абедзвюх чэргах было б справядліва назваць навічкамі:

— Як аказалася, многія прыйшлі звальняцца, адпрацаваўшы дзень-два. Яны гучна абураліся, і з нашай чаргі ім сталі задаваць пытанні: як, што, чым незадаволеныя? Ахова пачала напружвацца — маўляў, напалохаюць людзей, не дойдуць да аддзела кадраў. Жанчына інтэлігентнага выгляду — з чаргі тых, хто звальняецца, — запярэчыла: ніхто палохаць не збіраецца, проста людзі павінны ведаць праўду. На што адзін з ахоўнікаў заўсміхаўся: нічога, кажа, вы і самі назад вернецеся, іншай жа працы тут няма...

У аддзеле кадраў Сяргея чакаў той самы сюрпрыз: у 18-гадзінную змену. Да таго часу ён ужо даведаўся пра асаблівасці працы пакавальніка паўфабрыкатаў. У цэху не больш за 6 градусаў цяпла, волкасць, увесь час на нагах. У такіх умовах і 12 гадзін адпрацаваць — не мёд, а ўжо 18...

Не парадавалі і падрабязнасці пра заробак. Як высветлілася, 1000 рублёў — гэта была зарплата да выліку НДФЛ, пра што паказвалася далёка не ва ўсіх аб'явах аб вакансіі. Уласныя падлікі вывелі яго на лічбы ў 840–860 рублёў. Са слоў жа былых работнікаў фабрыкі, нават з улікам перапрацовак заробак быў значна меншы.

Атрымаўшы на рукі рэквізіты для афармлення карт-рахунку і санкніжкі, Сяргей адправіўся дадому думаць. Але канчатковае рашэнне прыйшло яшчэ ў дарозе.

— Ідучы на вакзал, сустрэў хлопца, які адпрацаваў на фабрыцы толькі адзін дзень. Вось яго гісторыя. Ён прыехаў сюды з сябрамі. Уладкаваўся, папрацаваў адну змену — і прастыў. Ды так, што злёг на тыдзень на бальнічны. Пакуль хварэў, яго сябры паспелі звольніцца.

Па словах хлопца, майстры ў цэху зарабляюць менш тых, хто стаіць на ўпакоўцы паўфабрыкатаў. Але мяняцца месцамі не спяшаюцца. Пры гэтым яго самога майстар угаворваў застацца, казаў, што начальства моцна грызе за цякучку.

На вакзале Сяргей сустрэў трох жанчын з чаргі на звальненне. Паводле іх словаў, на фабрыку прыязджаюць у пошуках працы з усёй краіны, у асноўным, чапляючыся за магчымасць зарабіць праславутую тысячу.

— Распавялі, што самі з вёскі, цяжкай працы не баяцца, працавалі да гэтага на шкоднай вытворчасці. Але з такім сутыкнуліся ўпершыню. Па-першае, абяцаны ў рэкламе рэжым працы апынуўся зусім іншым, як і зарплата. Па-другое, стаўленне кіраўнікоў да рабочых: кіраўніцтва не саромеліся лаяць майстроў, тыя, у сваю чаргу, зрываліся на простых рабацягах.

Пасля такіх расповедаў наш чытач працягнуў пошукі ў іншым месцы.

— У Мінску адправіўся на фірму па перапрацоўцы мяса. Тут усё было сумленна: адзін з кіраўнікоў адразу папярэдзіў: графік ненармаваны, праца цяжкая. Паводле яго слоў, разгружаць тушы з фураў часам даводзіцца з раніцы да позняй ночы. І ніякіх суткі праз двое — шасцідзённы тыдзень з магчымасцю адпрасіцца па справах на гадзіну раз на месяц. Сказаў, што ў яго тут мужыкі грошы зарабляюць. Калі з перапрацоўкамі (а так бывае практычна ўвесь час), то можна зарабіць 1200 рублёў і больш.

Такі графік Сяргею па сямейных абставінах не падышоў:

— Мне здаецца, надыходзіць час нейкага дзікага капіталізму. Працадаўца ведае, што ў любым выпадку знойдзе сабе тых, хто пагодзіцца на любыя ўмовы. Асабліва, калі новая праца будзе выйгрышнай у плане зарплаты.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Каму «па пяцьсот»?

Сяргей САЛАЎЁЎ


Малюнак www.ptzgovorit.ru

**Я разумею, чаму нашы грамадзяне глядзяць беларускае тэлебачанне. З яго можна дазнацца праўду. Але толькі ў тым выпадку, калі да ўсяго — літаральна да ўсяго, нават да мастацкіх фільмаў, — змяняць знакі.**

Напрыклад, нам увесь год казалі: краіна больш не будзе ўлазіць у пазыкі. «Беларусь у 2017 годзе не плануе прыцягваць знешнія запазычанні для рэфінансавання знешняга дзярждоўгу», — казаў Аляксандр Лукашэнка напачатку года. Рэспубліка не плануе ў 2018-м звяртацца да буйных знешніх запазычанняў, працягваў у верасні гнуць гэтую лінію Дзмітрый Крутой — першы намеснік міністра эканомікі Беларусі.

А тут бац — Міністэрства фінансаў паведамляе, што знешні дзяржаўны доўг Беларусі па стане на 1 кастрычніка 2017 года склаў $16,3 млрд, павялічыўшыся з пачатку года на $2,7 млрд (з улікам курсавых розніц), або на 19,5%.

Аказваецца, за студзень-верасень бягучага года Беларусь прыцягнула знешнія дзяржаўныя пазыкі на суму $3 млрд 417,2 млн, у тым ліку $1,4 млрд за кошт размяшчэння еўрааблігацый, $600 млн — крэдыту Еўразійскай фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР), $1 млрд 96,2 млн — крэдытаў урада і банкаў Расійскай Федэрацыі, $194,5 млн — крэдытаў банкаў Кітая, $122,6 млн — Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця (МБРР), $3,9 млн — Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР).

Сукупны дзярждоўг Беларусі вырас за студзень-верасень на Br4,4 млрд, або на 12%, і складае Br41,4 млрд. То бок, больш за $21 млрд.

Такім чынам, кожны грамадзянін Беларусі (умоўна возьмем лічбу ў 9,5 млн насельніцтва), уключаючы немаўлят і пенсіянераў, вінен ці замежнікам, ці мясцовым больш за 2000 долараў. Як мы іх будзем аддаваць — ніхто не ведае. Думаю, што не ведаюць нават і тыя, хто падпісваў пагадненні на гэтыя пазыкі, адначасна заяўляючы: «Не-не-не, пазыкаў больш не будзе!».

Чаму абавязкова ўзнікне праблема з адданнем грошай? Папросту таму, што ініцыятыўных і працуючых з рынку вышчамляюць.

Паводле дадзеных Белстата, за 9 месяцаў гэтага года ў Беларусі спынілі дзейнасць амаль 27,8 тысячы індывідуальных прадпрымальнікаў і 6,8 тысячы арганізацый.

Больш за ўсё ІП у студзені-верасні знікла ў адносна багатым Мінску — 6450 (варта адзначыць, што за аналагічны перыяд мінулага года ў сталіцы «сышлі» 10107 ІП). Пры гэтым у сталіцы і Мінскай вобласці колькасць ІП, якія закрыліся, была меншай, чым тых, якія адкрыліся. Ва ўсіх рэгіёнах ІП больш актыўна згортвалі бізнес, чым адчынялі. Напрыклад, у Гродзенскай вобласці ІП, якія закрыліся, было на 1025 больш, чым тых, хто распачаў бізнес.

Увогуле ж колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў у Беларусі скарачаецца трэці год запар.

Відавочна, што з тых, хто згарнуў сваю справу, больш падаткаў не атрымаеш. А таму і з'яўяцца праблемы з выплатамі, і не толькі дзярждоўгу, але і іншымі.

Затое некаторыя групы насельніцтва ўжо дасягнулі абяцанага Аляксандрам Рыгоравічам заробку ў 1000 рублёў. Размова ідзе, канешне, пра чыноўнікаў, асабліва ў Мінску. Па паведамленні таго ж Белстату, у верасні 2017 года сярэдняя зарплата мінскіх чыноўнікаў вырасла ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года прыкладна на 30% і склала 1341 рубель.

Нам заўсёды кажуць, што адпаведны рост адбыўся за кошт «аптымізацыі» і «дэбюракратызацыі» дзяржаўнага апарату. Аднак дапытлівыя журналісты TUT.BY паспрабавалі зразумець сутнасць той самай аптымізацыі. Напрыклад, па якім прынцыпе скарачалі работнікаў дзяржорганаў, колькі іх сышло і куды.

Усе нюансы аптымізацыі рэгламентаваныя пастановай Саўміна, дзе ёсць пункты з паметкай «Для службовага карыстання». Таму на ўмовах ананімнасці яны распыталі пра гэты працэс некалькіх гарадскіх чыноўнікаў, каб зразумець, што адбылося, хаця б у агульных рысах.

І ў выніку высветлілася, што не адбылося амаль нічога. Нічога! Проста ў працэсе «аптымізацыі» 30% службоўцаў пазбавіліся статусу дзяржслужачых. Гэта тыя людзі, якія альбо не выконвалі дзяржаўна-ўладных паўнамоцтваў, альбо выконвалі дублюючыя функцыі. 15% адправілі на пенсію або паспрабавалі знайсці ім новую працу, калі чалавек у працаздольным узросце. Напрыклад, гэта можа быць месца ў якой-небудзь падпарадкаванай дзяржарганізацыі. Кажуць, што новую працу знайшлі шмат каму, але гэта ж у выніку — простае перасаджванне з крэсла ў крэсла!

А тыя 15%, што засталіся — проста працуюць у той жа ўстанове тымі ж чыноўнікамі. Але — ужо без статусу дзяржслужачага. Пры гэтым ім захавалі ранейшую зарплату. Напрыклад, калі раней такі спецыяліст атрымліваў пэўны заробак з улікам надбавак за клас дзяржслужачага, то цяпер надбаўкі як дзяржслужбоўца ён пазбавіўся. Але да той жа лічбы, якую ён атрымліваў дзяржслужбоўцам, яму заробак «дабілі» іншымі надбаўкамі. І заробак на 30% паднялі ўсім — у тым ліку і «скарочаным дзяржслужачым».

Такім чынам, па паперах колькасць «дзяржслужачых» скарацілася на 30%. Сапраўды, калі чалавек афіцыйна пазбаўлены статусу дзяржслужачага — ён жа па дакументах ужо не дзяржслужачы? А па факце скарачэнне закранула толькі пенсіянераў.

Цікавая схема, праўда? Так можна скарасціць колькасць дзяржслужбоўцаў і на 100% — пры тым, што менш іх ад гэтай «аптымізацыі» не стане.

А народу гэтую процьму чыноўнікаў утрымліваць усё складаней. Паказальная ў гэтым плане гісторыя, якая адбылася ў Мінску 19 кастрычніка.

Ехаў па горадзе тралейбус. З-за аварыі на дарозе кіроўца вырашыў змяніць маршрут, пра што і паведаміў пасажырам. Але ж пасажыры ўжо прабілі свае талончыкі і аплацілі праезд. Таму двое з пасажыраў выйшлі з салона тралейбуса, зайшлі ў кабіну кіроўцы і запатрабавалі пакрыць аплачаны праезд. Яны забралі праязныя талоны, якія ляжалі на прыборнай панелі кіроўцы, узялі некалькі сабе, а астатнія раздалі іншым незадаволеным пасажырам.

Зараз міліцыя расшуквае гэтых робін гудаў, але справа не ў тым. Гэты выпадак паказвае, колькі працоўны люд, які не ездзіць на службовых аўто, зарабляе насамрэч. А насамрэч зарабляе ён настолькі мала, што нават вартасць квітка на адну паездку ў транспарце для яго — каштоўнасць.

Такіх выпадкаў будзе больш, бо з 1 лістапада ў Мінску на 5 капеек падаражэў праезд. Хаця яшчэ паўгода таму Мінсктранс абяцаў, што сёлета падаражання не будзе. І гэта зноў пра розніцу паміж рэальным жыццём і абяцаннямі чыноўнікаў. У якіх ужо ёсць «па пяцьсот».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Сустаршыня рады Беларускага нацыянальнага кангрэсу Мікалай Статкевіч адпраўлены на чарговы адміністрацыйны арышт.**

Паспяхова правёўшы акцыю ля КДБ 29 кастрычніка, увечары 30 кастрычніка ён быў затрыманы.

Як вядома, Статкевіча змясцілі ў ізалятар на вуліцы Акрэсціна. Верагодна, ён адбывае 5-суткавы арышт па старым прысудзе за акцыю ў дзень Беларускай вайсковай славы 8 верасня. Такім чынам, выйсці на волю палітык павінен 4 лістапада, напярэдадні мітынгу і шэсця ў дзень памяці продкаў «Дзяды».

Сам палітык казаў раней, што атрымаў позву ў суд за тое, што даў журналістам інтэрв'ю пад турмой на Акрэсціна 7 кастрычніка ў Мінску пасля адбыцця 15-суткавага арышту, у якім распавёў пра спробу заразіць яго сухотамі. Таксама ён меркаваў, што неўзабаве пракуратура ды судовыя органы пачнуць дасылаць выклікі ды позвы па выніках «Маршу абураных беларусаў», які адбыўся 21 кастрычніка ў Мінску і адным з арганізатарам якога выступаў Статкевіч.

Гэта ўжо шостае затрыманне палітыка сёлета. Агулам ён правёў за кратамі 34 дні.

## Ігар Марзалюк



**Ідэя Мінадукацыі па ўраўнаванні школаў і гімназій па праграмах навучання выклікала вялікі рэзананс як у грамадстве, так і ў дэпутатаў.**

Нагадаем, што міністр адукацыі Ігар Карпенка заявіў, што «адукацыя павінна быць роўнадаступнай, не павінна фармавацца нейкая элітарнасць». Шмат хто ўспрыняў гэта як ліквідацыю гімназічнага навучання і спробы «апусціць» гімназіі да ўзроўню школ.

Адзін з такіх незадаволеных — старшыня камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Ігар Марзалюк. Па яго словах, на 29 лістапада прызначаныя парламенцкія слуханні на тэму «Нацыянальная сістэма адукацыі: стан і шляхі ўдасканальвання заканадаўчага рэгулявання». Слуханні планавыя, але не абыдзецца і без абмеркавання будучыні гімназій, бо пазіцыя дэпутатаў і Мінадукацыі ў гэтым пытанні не супадаюць.

«Я глыбока перакананы: гімназіі павінны існаваць — мы не павінны страціць лепшых дзяцей і лепшыя школы. Я лічу, што ўся філасофія павінна быць пабудаваная на тым, каб звычайную школу падцягваць да ўзроўню гімназій, а не наадварот», — сказаў Марзалюк «Еўрарадыё».

Ігар Марзалюк кажа пра неабходнасць інтэлектуальнай канкурэнцыі сярод роўных: «Галоўнае, што ёсць у гімназіі — неагрэсіўнае асяроддзе, матываваныя на дасягненне высокага поспеху і на перамогі на алімпіядах ды конкурсах, з перспектывай навуковых дасягненняў, дзеці і іх педагогі. Для таго, каб дзіця было таленавітае, павінны быць таленавітыя педкалектывы. А на сёння ў пераважнай большасці гімназій высокаякасныя выкладчыкі. Гімназіі выконваюць ролю высокаякасных навукова-метадычных цэнтраў для ўсіх астатніх школ і з'яўляюцца ўзорам».

«Разам з міністрам, разам з Міністэрствам адукацыі, нашай камісіяй, а мы свае рэкамендацыі выпрацуем, мы прагаворым і пастараемся прыйсці да нейкага пазітыўнага выніку», — спадзяецца Марзалюк.

## Сяргей Міхалок



**Кіраўніка гурта «BRUTTO» шмат хто жартоўна абвінавацію у «кумаўстве» ў лепшым сэнсе гэтага слова. Уся справа ў роліку, які зняты на песню «Годзе».**

Песня «Годзе» напісаная на тэкст Янкі Купалы і ўвайшла ў апошні альбом гурту — «Рокі». Галоўным героем відэа стаў Макар — сын лідара гурта Сяргея Міхалка. У кліпе таксама знялася жонка Міхалка — былая «прыма» Купалаўскага тэатра, акцёрка Святлана Зелянкоўская.

Сяргей Міхалок у апісанні кліпу тлумачыць: «Годзе» — гэта наш маленькі, сямейны «Уліс». Макарка з'явіўся на свет амаль адначасова з «BRUTTO», і некаторыя ідэі і сэнсы калектыву з'яўляюцца для нас асабістымі, амаль сакральнымі».

Рэжысёрам новага кліпу стаў Дзмітрый Аўдзееў, які таксама працаваў над відэа гурта на песні «12 обезьян», «Вечірнє сонце» і «Чайка».

а Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Жыць цяжка, але можна трываць

**Інфляцыя ў Беларусі апусцілася да гістарычнага мінімуму, курс рубля да долара стабільны. Прыгажосць!**




2017 год блізкі да завяршэння. Канчатковыя вынікі падводзіць яшчэ рана, але можна паспрабаваць папрактыкавацца на выніках прамежкавых.

Год стогадовага юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі пачаўся з акцый пратэсту. Іх размах па беларускіх мерках апынуўся нечаканым як для апазіцыі, так і для ўлады. Здавалася, што ва ўмовах негатыўных эканамічных трэндаў у гарачай вясны ёсць рэальныя шанцы атрымаць працяг калі не ў гарачым леце (сезон адпачынкаў і шчыравання на лецішчах), дык, як мінімум, у гарачай восені. Аднак гэтым спадзяванням / асцярогам не наканавана было спраўдзіцца.

Калі няма гербавай паперы — пішуць на звычайнай, а калі адсутнічае айчынная сацыялогія, даводзіцца звяртацца да расійскай. Зразумела, механічна пераносіць усе сацыяльныя тэндэнцыі з Расіі на беларусаў было б неабдумана, але, як паказвае шматгадовы вопыт, верагоднасць паралельнай змены настрояў вялікая.

19 кастрычніка «Лявада-цэнтр» апублікаваў прэс-выпуск пад назвай «Адаптацыя». Прывяду асноўную выснову: «У цяперашні час адаптацыя насельніцтва захоўваецца на высокім узроўні, калі глядзець на дынаміку настрояў, нягледзячы на зніжэнне індэкса ў параўнанні з падвышанымі паказчыкамі 2014 года».

Зразумець цытату нам дапаможа табліца. У верасні 2013 года (апошні радок) быў зафіксаваны чарговы мінімум адказаў, якія дэманструюць пазітыўную адаптацыйную ўстаноўку: «усё не так дрэнна, жыць можна». «Крымнаш» і наступныя баявыя дзеянні на ўсходзе Украіны сфармавалі так званы «крымскі кансенсус». Ён выявіўся не толькі ў росце рэйтынгаў дзяржаўных інстытутаў Расіі, але і ў парадаксальным росце ўсіх сацыяльных індыкатараў ва ўмовах падзення рэальных даходаў насельніцтва.

Чара гэтая не абмінула і беларусаў. Здзіўляцца таму не даводзіцца: 60–65% суайчыннікаў падзялілі ацэнкі «Крымнаш», якія транслююцца расійскімі СМІ.

«Крымскі кансенсус» — гэта перамога тэлевізара над халадзільнікам, перамога свядомасці над быццём, якое ўпэўнена коціцца да крызісу. Але час працаваў супраць новага кансенсусу, што і прывяло да зніжэння адказаў у першым слупку за два гады з 32% да 23%. Але апошняе апытанне зафіксавала разварот трэнду. Даходы не растуць — але ўсё не так дрэнна і жыць можна!

**ЯКОЕ З НАСТУПНЫХ ВЫКАЗВАННЯЎ БОЛЬШ АДПАВЯДАЕ СІТУАЦЫІ, ЯКАЯ СКЛАЛАСЯ? (У ПРАЦЭНТАХ АД КОЛЬКАСЦІ АПЫТАНЫХ)**

| | Усё не так дрэнна, жыць можна | Жыць цяжка, але можна трываць | Трываць наша гаротнае становішча ўжо немагчыма | Няма адказу |
|---|---|---|---|---|
| 09.2017 | 32 | 53 | 13 | 3 |
| 09.2016 | 23 | 54 | 20 | 3 |
| 09.2015 | 26 | 55 | 14 | 5 |
| 09.2014 | 32 | 54 | 11 | 4 |
| 09.2013 | 25 | 57 | 15 | 3 |

## Пасіўная адаптацыя

Жыць цяжка, але можна трываць. А чаму б і не? Інфляцыя ў Беларусі апусцілася да гістарычнага мінімуму. Курс рубля да долара стабільны на працягу года. Які яшчэ год у найноўшай гісторыі можа пахваліцца такімі вынікамі? Да пералічаных дабротаў варта дадаць шматразовыя абяцанні з боку адзінага палітыка (АП) падняць да канца года сярэдні заробак да 500 долараў. Праўда, верыцца ў такі падарунак з кожным месяцам усё менш, але не на Плошчу ж з такой нагоды выходзіць?!

«Чалавек савецкі» — а менавіта гэты сацыяльны тып працягвае дамінаваць у беларускім грамадстве, — гэта чалавек, які дасканала авалодаў мастацтвам адаптацыі да рэпрэсіўнай дзяржавы. Праз карупцыю, праз халтуру, праз здольнасць думаць адно, казаць іншае, а рабіць трэцяе, ён навучыўся суіснаваць з уладай.

Сучасны варыянт біблейскага хітрага раба. Без такіх хітрыкаў у «дзяржаве для народа» не выжыць. Так, прымітыўна. Так, архаічна. Але па-свойму рацыянальна і эфектыўна.

«Усе перамены апошніх гадоў, — падкрэслівае сацыёлаг Леў Гудкоў, — цікава разглядаць як вымушанае прыстасаванне да працэсу раскладання таталітарных дзяржаўных інстытутаў (але не змяненне саміх інстытутаў). Менавіта адаптацыя такога кшталту цягне за сабой рост аморфнай, непатрабавальнай сярэдзінкі».

«Адаптацыя такога кшталту» — гэта пасіўная адаптацыя. Яна ажыццяўляецца за кошт зніжэння запытаў, г. зн. за кошт праколвання новых дзірак на рамяні. Зноў звернемся да табліцы. Варыянт адказаў «жыць цяжка, але можна трываць» пераважае, і, што характэрна, амплітуда змены колькасці цярплівых за апошнія гады мінімальная!

Цярплівыя складаюць касцяк грамадства. Той, хто перажыў голад, з такой жа стойкасцю перажыў багацце «нулявых» гадоў з іх расслаеннем на звышзаможных і прафесійных жабракоў.

Да апошніх належаць не толькі вядомыя персанажы, якія дэманструюць свае рэальныя і ўяўныя калецтвы ў падземных пераходах. Самы распаўсюджаны тып кленчанне на афіцыйнай мове называецца ў нас «зварот грамадзян». Гэта адзін з найважнейшых сацыяльных інстытутаў, з дапамогай якога «дзяржава для народа» ажыццяўляе зваротную сувязь з народам. 24 кастрычніка падчас сустрэчы АП са сваёй адміністрацыяй мы мелі магчымасць лішні раз у гэтым пераканацца.

## Згодна з трэцім законам Ньютана

Пытанне аб павышэнні якасці працы са зваротамі грамадзян падымаецца АП перыядычна. Алгарытм абмеркавання даўно адпрацаваны: «Усё цягнецца з савецкіх часоў: хтосьці напісаў у адміністрацыю прэзідэнта ці на імя прэзідэнта, хтосьці скардзіцца на мясцовыя органы ўлады, а мы туды адпраўляем для разгляду гэтыя скаргі і заявы. <...> Час з гэтым скончыць».

Сапраўды, час скончыць наспеў, але не атрымліваецца. І ў гэтым не варта шукаць чыйсьці злы намер. Уся справа ў тым, што ўладная «вертыкаль» ужо ў сілу сваёй прыроды не можа трансляваць наверх праўдзівую інфармацыю. Вось як гэту асаблівасць «вертыкалі» тлумачыць палітолаг Кірыл Рогаў: «Прынцып вертыкалі палягае ў бязгрэшнасці верхніх паверхаў перад ніжнімі. І калі нешта не атрымалася, то ў гэтым могуць быць вінаватыя толькі ніжнія паверхі, якія «не справіліся з пастаўленымі задачамі». Але на ніжніх паверхах вертыкалі жывуць не такія ўжо ідыёты, каб выступаць хлопчыкамі для біцця ў гэтай гульні ў цара гары. А гэта значыць, што ніжнія паверхі не маюць матываў прадстаўляць наверх праўдзівую, але непрыемную інфармацыю».

Тут напрошваецца прамая аналогія з дзіцячай гульнёй у «сапсаваны тэлефон». Але калі ў гульні змест паведамлення скажаецца папросту за кошт вялікай колькасці людзей у ланцужку, то пры руху інфармацыі па ўладнай «вертыкалі» да аб’ектыўнага фактару дадаецца фактар суб’ектыўны — асабістыя інтарэсы вертыкальшчыкаў.

Згодна з трэцім законам Ньютана, сіла дзеяння роўная сіле супрацьдзеяння. Таму, чым больш жорстка АП спрабуе выбудаваць «вертыкаль», тым больш складана прабіцца наверх праўдзівай, але непрыемнай інфармацыі. І ніякімі пагрозамі жорсткіх «арганізацыйных высноў» становішча не выправіць. Наадварот, эфект атрымліваецца адваротны. Уладная «вертыкаль» у сучасных умовах не падыходзіць для рэалізацыі чаго б там ні было. Яна не перадае загады, яна перадае хвалі лаяльнасці — і не больш за тое.

## Ёсць выбар

Аўтарытарнай сістэме з кожным годам становіцца ўсё складаней «слухаць і чуць людзей, бачыць тэндэнцыі і аператыўна на іх рэагаваць». За прыкладам далёка хадзіць не трэба. Дзеля дасягнення сакральных $500 (1000 рублёў), сярэдні заробак за год неабходна падняць на 38,8%. Якая эканоміка такое вытрымае?! Але «вертыкаль» узяла пад казырок — і праца закіпела.

За студзень-верасень да стартавых 720 рублём дадалі 15,3%. За тыя тры месяцы, што засталіся, неабходна дабраць 23,5%. З улікам прэміяльных выплат па выніках года, якія традыцыйна дадаюць у снежні каля 10% да заробку, пастаўленая АП задача ўжо не здаецца нерэальнай. Але коштам якіх дысбалансаў у эканоміцы яна можа быць дасягнутая, калі прадукцыйнасць працы па ВУП за восем месяцаў вырасла толькі на 2,7%! Акрамя таго, не варта забываць, што ўсе дадатковыя рублі лягуць на сабекошт беларускай прадукцыі, у тым ліку экспартнай.

Такім чынам, павелічэнне сярэдняга заробку да $500 (1000 рублёў), калі толькі яно адбудзецца да канца года, варта разглядаць як «знак бяды». Але беларусам не прызвычайвацца!.. За пяць гадоў, (1917–1922) «чалавек манархічны» трансфармаваўся ў «чалавека савецкага», якому хапіла пяці гадоў (1990–1995), каб вызваліцца ад камуністычнай ідэалогіі і стаць сапраўдным вернікам.

Дык няўжо здольнасць адаптавацца да пераменаў не варта разглядаць у якасці станоўчай характарыстыкі? Адказ на гэтае пытанне залежыць ад тыпу рэсурсаў, якія насельніцтва задзейнічала для пераадолення крызісу. Вось тут пахваліцца няма чым. Найбольш значным апынуўся попыт на сацыяльны (блат) і ўладны рэсурсы, найменш запатрабаваныя — кваліфікацыя і культурны капітал. У іх уладальнікаў ёсць выбар: альбо памяняць краіну, альбо прыстасоўвацца.

# Як знайсці інвестыцыі для стартапу?

Аляксандр СТЭПАНОВІЧ

**Ці не кожны прадпрымальнік-пачатковец сутыкаецца з праблемай: дзе ўзяць грошы на раскрутку свайго стартапу? Насамрэч, існуе даволі шмат людзей, якія гатовыя ўкласці «лішнія» грошы ў новы бізнес. Трэба проста ведаць, як іх шукаць.**



**У Беларусі (з вядомых прычын) магчымасці для рэалізацыі бізнес-ініцыятыў з прыватным капіталам моцна абмежаваныя: венчурныя фонды афіцыйна з’явіліся толькі сёлета — і тыя дзяржаўныя, утвораныя адпаведнымі ўказамі**

### Што спачатку?

Крыніцаў для пошуку пачатковага капіталу даволі шмат. На першых этапах стартапу варта прыглядзецца да «бізнес-анёлаў» (індывідуальных інвестараў): яны могуць прапанаваць больш гнуткія ўмовы і часта гатовыя ісці на большую рызыку, калі стартап ім спадабаўся і яны хочуць яго падтрымаць. Таксама варта ўдзельнічаць у конкурсах акселератараў, якія, акрамя выдзялення адабраным стартапам невялікіх seed-інвестыцый надаюць вялікую ўвагу навучанню і ментарству. У апошнəе дзесяцігоддзе атрымаў шырокі распаўсюд краўдфандынг — збор невялікіх грашовых сум ад вялікай колькасці зацікаўленых праектам людзей. А адносна нядаўна, дзякуючы з’яўленню крыптавалют, краўдфандынг перайшоў на новы ўзровень, які дазваляе праводзіць ICO — продаж стартапамі токенаў. Токен у дадзеным выпадку — крыптавалюта, якая дае інвестарам права на долю ў прыбытках кампаніі і з’яўляецца сродкам разлікаў.

Калі ў стартапу ёсць як мінімум прататып прадукту, але для далейшага развіцця праекта патрэбны вялікі капітал, то можна разглядаць атрыманне інвестыцый з венчурных фондаў.

### Як працуе венчурны фонд

Венчурныя фонды — гэта інвестыцыйныя фонды, якія кіруюць капіталам інвестараў і шукаюць магчымасці інвеставання ў стартапы або дробныя і сярэднія кампаніі з вялікім патэнцыялам росту. Такія інвестыцыі з’яўляюцца высокарызыкоўнымі, але патэнцыйна высокадаходнымі. Тэрмін ад укладання інвестыцый у той ці іншы стартап да выхаду капіталу (шляхам выхаду на IPO альбо шляхам продажу стартапу буйной кампаніі) з мэтай размеркавання прыбытку сярод інвестараў складае, як правіла, 5–7 гадоў.

Інвестыцыі ў стартапы адбываюцца паэтапна (seed, series A, series B, series C, series D), кожны этап цягнецца 12–18 месяцаў. Для атрымання чарговага траншу інвестыцый стартап павінен дасягнуць мэтаў, пастаўленых падчас папярэдняга этапу.

Згодна са статыстыкай, са стартапаў, якія атрымалі венчурныя інвестыцыі, толькі 12–15% прыносяць вялікі прыбытак у 10–20-кратным памеры, прыкладна 40% стартапаў аказваюцца стратнымі, а астатнія 45–47% даюць невялікі 2–5-кратны прыбытак, які дазваляе толькі пакрыць страты тых 40% непаспяховых інвестыцый фонду. Такім чынам, у сярэднім фонд генеруе прыкладна 3-кратны прыбытак на ўкладзеныя інвестыцыі.



Гэта абумоўлівае пэўныя правілы, па якіх дзейнічаюць венчурныя фонды. Паколькі фонд атрымлівае прыбытак толькі ад 12–15% укладанняў, ён заўсёды фармуе інвестыцыйны партфель з не менш як 10, аптымальна — з 20–25 кампаній. Па структуры венчурны інвестыцыйны фонд складаецца з абмежаваных партнёраў (limited partners) — паевых інвестараў, а таксама генеральных партнёраў (general partners) — кіруючых фондам, якія фармуюць савет дырэктараў. Інвестыцыйныя рашэнні прымаюць выключна генеральныя партнёры. За кіраванне фондам яны атрымліваюць узнагароджанне, якое складаецца з дзвюх частак: камісійныя зборы — прыкладна ў памеры 2% на год ад інвеставанага капіталу і працэнт ад прыбытку па закончэнні інвестыцыйнага цыклу (на прафесійным слэнгу «Carry»), які складае, як правіла, 20% ад прыбытку (часам да 30%).

### Ацэнка без уцэнкі

Якім чынам венчурныя фонды праводзяць ацэнку стартапаў, прымаючы інвестыцыйнае рашэнне? Справа ў тым, што традыцыйныя метады ацэнкі, якія прымяняюцца для кампаній з гісторыяй існавання ў некалькі гадоў, для маладых стартапаў не працуюць, бо існуе шмат невядомых пераменных. Таму венчурны капіталіст разважае наступным чынам: ён глядзіць на памер рынку, са свайго досведу, гледзячы на аналагічныя стартапы, ацэньвае, якую долю рынку, стартап можа заваяваць, ведаючы сабекошт прадукту і ягоны рынкавы кошт, ацэньвае маржу і прыблізны гадавы прыбытак. І, зыходзячы з гэтых параметраў, разважае, колькі можа каштаваць такая кампанія на момант выхаду з інвестыцыі (праз 5–7 гадоў).

Паколькі венчурны фонд імкнецца, каб інвестыцыі прынеслі 10–20-кратны прыбытак, то ацэначны кошт кампаніі на момант выхаду з інвестыцыі дзелім на 20, — такім чынам атрымліваем суму, якую фонд будзе гатовы інвеставаць у стартап. На большую суму разлічваць не варта.

Стартаперам, якія рыхтуюць бізнес-план або прэзентацыю для выступу перад патэнцыйнымі інвестарамі, варта разумець, што абгрунтаванне інвестыцый трэба рабіць менавіта так — метадам ацэнкі, бо дакладныя лічбы, распісаныя ў бізнес-плане на некалькі гадоў наперад, для стартапу не будуць мець ніякага сэнсу, а ў вачах інвестара такі прадпрымальнік адразу будзе выглядаць дылетантам, які бярэ лічбы «са столі».

### Як і куды звяртацца?

Што яшчэ варта ведаць, падаючы заяўкі на атрыманне інвестыцый у венчурныя фонды? Па-першае, з мноства фондаў трэба адабраць толькі тыя, якія працуюць са стартапамі ў вашай галіне (напрыклад, IT, фінтэх, тэлекамунікацыі, энергетыка, біятэхналогіі і гэтак далей) і ў вашым геаграфічным рэгіёне (як правіла, фонды спецыялізуюцца на пэўным рэгіёне, хоць ёсць і асобныя глабальныя фонды), а таксама браць пад увагу, на якіх стадыях яны інвестуюць (seed, series A, series B).

Па-другое, неабходна суаднесіць памер капіталу фонду з патрэбамі вашага стартапу: фонд ніколі не інвестуе больш за 10–15% ад свайго капіталу ў адзін стартап. І, па-трэцяе, варта памятаць, што акрамя перспектыўнасці самога праекта, ключавое значэнне падчас прыняцця інвестыцыйнага рашэння фондам адыгрывае склад каманды стартапу, — важна, каб у камандзе былі выдатныя спецыялісты, пажадана з досведам удзелу ў паспяховых праектах, па кожным накірунку (распрацоўка, маркетынг, кіраванне). Калі нейкі з накірункаў пакуль не закрыты, то варта паказаць, дзе такога спецыяліста можна знайсці.

Падчас прэзэнтацыі стартапу перад патэнцыйнымі інвестарамі не трэба «маляваць карціну ў ружовых колерах», — значна лепш рэальна акрэсліць сітуацыю і перспектывы, паказаць, на якіх этапах стартап можа падсцерагаць небяспека, і прапанаваць варыянты выхаду з гэтых складаных сітуацый. Для інвестара важна бачыць, што вы маеце ўяўленне пра «падводныя камяні» на шляху свайго стартапу і ведаеце, як іх можна пераадолець, — гэта шматкроць павышае шанцы на атрыманне інвестыцыі, бо дэманструе ваш прафесіяналізм і рэалістычны падыход да справы.

### Што ёсць у нас

У Беларусі (з вядомых прычын) магчымасці для рэалізацыі бізнес-ініцыятыў з прыватным капіталам моцна абмежаваныя: венчурныя фонды афіцыйна з’явіліся толькі сёлета — і тыя дзяржаўныя, утвораныя адпаведнымі ўказамі. Першы з іх — беларуска-расійскі, заснаваны Беларускім інавацыйным фондам сумесна з Расійскай венчурнай кампаніяй. Другі — беларуска-кітайскі, сярод заснавальнікаў якога кампанія па развіцці індустрыяльнага парку «Вялікі камень», Беларускі інавацыйны фонд і «ЧайнаМерчантс Капітал». Таксама ў Беларусі ёсць адзіная арганізацыя, якая аб’ядноўвае прыватных венчурных інвестараў і бізнес-анёлаў, — ГА «БАВІН».

У той жа час у суседняй Польшчы, якой у гэтым плане таксама яшчэ далёка да Заходняй Еўропы ці Паўночнай Амерыкі, існуе не адзін дзясятак венчурных інвестыцыйных фондаў. Для параўнання: у ЗША, дзе гэты сектар эканомікі найбольш развіты, венчурных фондаў некалькі соцень, і штогод яны заключаюць тысячы інвестыцыйных здзелак агульным аб’ёмам у некалькі дзясяткаў мільярдаў долараў. І гэта пры тым, што, згодна са статыстыкай, толькі каля 1% амерыканскіх стартапаў знаходзіць падтрымку з боку венчурнага капіталу.

Тым не менш, не трэба думаць, што ў беларускіх бізнесоўцаў няма тых магчымасцяў, якія ёсць на Захадзе. Мы жывём не ў ізаляцыі, а ў эпоху інтэрнэту і глабалізацыі, калі дзяржаўныя межы, дзякуючы новым тэхналогіям, у пэўнай ступені сціраюцца, а адлегласці змяншаюцца. Ужо неаднойчы беларускія стартапы знаходзілі замежныя інвестыцыі і заяўлялі пра сябе на ўвесь свет. Многія інвестыцыйныя фонды і акселератары працуюць у тым ліку і з беларускімі стартапамі, сярод іх: акселератар Google — Launchpad Accelerator, венчурны інвестыцыйны фонд Spacemind Capital і іншыя.

Інфармацыя аб спецыялізацыі фондаў і аб працэдурах падачы заявак, як правіла, размяшчаюцца на іх афіцыйных сайтах. У той жа час бывае карысна, каб прадстаўнікі фонду папярэдне чулі пра чальцоў вашай каманды праз добрыя водгукі са СМІ або ад сваёй сеткі дзелавых кантактаў, — гэта павышае шансы, каб на ваш стартап звярнулі ўвагу.

*Аўтар артыкулу Аляксандр Стэпановіч — заснавальнік і кіраўнік інвестыцыйна-кансалтынгавай кампаніі ў Варшаве, арганізатар беларускага нацыянальнага бізнес-клуба імя Рамана Скірмунта.*

# ЯНЫ АТАЧАЛІ КЕБІЧА

## Першы міністр абароны — генерал Павел Казлоўскі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ



Міністр абароны Рэспублікі Беларусь у 1992–1994 гадах Павел Казлоўскі

**У сувязі са скандалам у вайсковай частцы ў Печах, прэс-сакратар Мінабароны Уладзімір Макараў абвінавáціў былога міністра абароны Паўла Казлоўскага. Маўляў, у час яго камандавання Узброенымі Сіламі там быццам бы гінулі штогод па сто чалавек. Ці праўда гэта? І што зрабіў на сваёй пасадзе першы незалежны міністр абароны Беларусі?**

### На чале беларускага войска

Пасля развалу СССР адным з галоўных пытанняў незалежнай Беларусі стала стварэнне ўласнага войска. Праз тры дні пасля канстатацыі распаду СССР у Белавежскай пушчы, 11 снежня 1991 года ў краіне паўстала міністэрства па справах абароны. Яго ўзначаліў генерал-лейтэнант Пётр Чавус. І роўна праз месяц Вярхоўны Савет прыняў пастанову «Аб Узброеных Сілах, якія дыслакуюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». Паводле яе, кантроль над усімі Узброенымі Сіламі (акрамя стратэгічных) даручаўся камандуючаму Беларускай ваеннай акругай генерал-палкоўніку Анатолю Кастэнку.

Пётр Чавус 20 студзеня 1992 года быў прызначаны выконваючым абавязкі міністра абароны, аднак пытанне з галоўным ваенным кіраўніком заставалася адкрытым.

24 сакавіка 1992 года дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання Генадзь Лавіцкі (з лютага па ліпень 1994 года — шэф КДБ) апублікаваў у «Народнай газеце» артыкул, у якім разважаў пра тое, што міністрам абароны павінна стаць цывільная асоба. Яна, на думку Лавіцкага, адрознівалася б ад вайскоўца «большей степенью демократизма, творчества, независимостью суждений». Тым не менш, 22 красавіка 1992 года на пасадзе міністра абароны парламентам быў зацверджаны генерал-лейтэнант Павел Казлоўскі, які набраў на сваю карысць 215 дэпутацкіх галасоў пры неабходным кворуме ў 174.

Казлоўскі працаваў начальнікам штаба Беларускай ваеннай акругі і абвінавачваўся дэмакратычным сілам ў падтрымцы путчыстаў у жніўні 1991 года. У прыватнасці, у выніковым дакладзе часовай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па ацэнцы дзеянняў членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадска-палітычных аб'яднанняў, органаў дзяржаўнай улады, службовых асобаў і грамадзян канстатавалася «невозможным пребывание П.П. Козловского в должности» (дарэчы, як і Кастэнкі).

### Цяжкая і вымушаная рэформа

Менавіта Казлоўскі фактычна стварыў беларускае войска — на тым падмурку, які яму дастаўся ў спадчыну. Галоўным яго крокам было скарачэнне арміі і вайсковых структур. На першай прэс-канферэнцыі ў якасці міністра ў маі 1992 года Казлоўскі заявіў, што колькасць апарата Міністэрства абароны плануецца скараціць на 15–20%, а генеральскіх пасадаў будзе на 30–40% меней, чым было ў Беларускай ваеннай акрузе. Таксама планавалася скараціць 61 вайсковую частку і звольніць 20–22 тысячы афіцэраў і прапаршчыкаў.

На нарадзе-семінары старшынь выканаўчых камітэтаў мясцовых саветаў 19 сакавіка 1993 года Павел Казлоўскі заявіў, што Узброеныя Сілы скарочаныя са 130 да 115 тысяч, а да канца года іх колькасць будзе не больш за 87 тысяч чалавек.

Адначасова са скарачэннем пачалося і раззбраенне арміі. 21 кастрычніка 1992 года Вярхоўны Савет ратыфікаваў Дагавор аб звычайных узбраеннях у Еўропе, паводле якога Беларусь да лістапада 1995 года абавязалася скараціць колькасць танкаў на 1,5 тысяч адзінак, самалётаў — на 100, БТР — на 300, баявых машын пяхоты — на 1000. Пры гэтым Мінабароны дамагалася, каб заходнія краіны фінансава дапамагалі Беларусі ў знішчэнні зброі. Гэта стала адным з пытанняў у час візіту ў Брусэль у лютым 1993 года начальніка галоўнага штаба Мікалая Чуркіна.

Пры Казлоўскім Беларусь стала без'ядзернай дзяржавай. 4 лютага 1993 года Вярхоўны Савет ратыфікаваў Дагавор паміж СССР і ЗША ад 31 ліпеня 1991 года аб скарачэнні і абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў, у выніку чаго з Беларусі была вывезена атамная зброя.

Адным з накірункаў ваеннай рэформы пры Казлоўскім стала ўдасканальванне кіравання арміяй і павышэнне эфектыўнасці ўсіх родаў войск. Навацыі ўводзіліся і ў памежнай службе. У сакавіку 1993 года камандуючы памежнымі войскамі Яўген Бачароў заявіў, што на балтыйскім напрамку прыступілі да аператыўна-вайсковай аховы мяжы: у Смаргоні і ў Полацку створаны два мабільныя атрады, цалкам укамплектаваныя прафесіяналамі-кантрактнікамі.

Пры Паўле Казлоўскім пачалася і паступовая беларусізацыя арміі. 20 чэрвеня 1992 года на калегіі Мінабароны было вырашана, што пераход арміі на беларускую мову, «с учетом высочайшей корректности и уважения к людям», расцягнецца на 6–8 гадоў. Таксама было прынятае рашэнне праводзіць з 1 ліпеня 1992 года двухгадзінныя курсы па беларускай мове для афіцэраў і прапаршчыкаў два разы на месяц. 23 лютага 1993 года на прамой лініі «Звязды» Павел Казлоўскі заявіў, што працэнт беларусаў-вайскоўцаў склаў 40%, — на момант распаду СССР гэтая лічба была 13%.

### Клопат пра салдата

Пры Казлоўскім было замацавана юрыдычнае становішча вайскоўцаў. 13 лістапада 1992 года парламент зацвердзіў закон аб статусе ваеннаслужачых. Прычым гэты прававы акт быў прыняты амаль цалкам у тым выглядзе, на якім настойвала міністэрства.

У студзені 1993 года пры Савеце міністраў пачаў працаваць камітэт па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, асоб радавога складу і начальнікаў, органаў унутраных спраў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас (адстаўку), і членаў іх сем'яў. Камітэт узначаліў вядомы сёння палітык Сяргей Гайдукевіч.

Марудна, але вырашалася адна з найвастрэйшых праблемаў — жыллёвая. У пачатку 1993 года намеснік міністра абароны па будаўніцтве і расквартараванні войскаў Анатоль Сікора заявіў, што за 1992 год для вайскоўцаў у эксплуатацыю было ўведзена 123 тысячы квадратных метраў жылой плошчы, альбо 30 дамоў на 2034 кватэры, а таксама тры інтэрнаты. Пры дапамозе замежных фірмаў (Турцыя, Германія) былі пабудаваны жылыя ваенныя гарадкі ў Мар'інай Горцы (780 кватэр), у Баранавічах (600 кватэр) і ў Слоніме (1455 кватэр). Але ў той жа час на 1 студзеня 1993 года без жылля заставаліся 11728 сем'яў вайскоўцаў. У 1993 годзе планавалася пабудаваць 5446 кватэр, бо Савет Міністраў абяцаў выдаткаваць 5,3 млрд. рублёў на капітальнае будаўніцтва Мінабароны. Акрамя таго, жыллё будавалася за прыбытак камерцыйнага ўпраўлення міністэрства — грошай з продажу лішкаў тэхнікі і іншага.

Ведамства надавала ўвагу і працаўладкаванню звольненых у запас афіцэраў. У студзені 1993 года ў Калодзішчах быў адчынены (пры дапамозе Германіі) Беларускі цэнтр перападрыхтоўкі і працаўладкавання афіцэраў. На нарадзе-семінары 19 сакавіка 1993 года Казлоўскі заявіў, што ў цэнтры ўжо займаюцца 159 чалавек.

Міністэрства абароны распрацавала праграму вяртання беларускіх афіцэраў і салдат з-за мяжы, асабліва з гарачых кропак (адпаведная пастанова была зацверджана Вярхоўным Саветам 12 сакавіка 1992 года). Цяжэй за ўсё было з афіцэрамі, якім трэба было даць жыллё і працу. На прамой лініі са «Звяздой» 23 лютага 1993 года Казлоўскі заявіў, што міністэрства атрымала 7000 заяў аб пераводзе ў Беларусь, але станоўча вырашана толькі 800.

### Не без памылак

Няўдалымі былі крокі міністра па рэарганізацыі свайго ведамства. У маі 1992 года Казлоўскі правёў у структуры буйную кадравую перастаноўку, у выніку якой Кастэнка стаў першым намеснікам міністра абароны. У Казлоўскага апынулася ажно 9 намеснікаў-генералаў, сярод якіх быў толькі адзін беларус.

Увогуле, першыя захады міністра па рэформе войска прывялі да таго, што цэнтральны апарат яго ведамства пачаў разбухаць. У адной з публікацый у «Народнай газеце» ў 1992 годзе ваенны эканаміст і падпалкоўнік Станіслаў Гурыновіч назваў Мінабароны «міністэрствам лішкаў». Гурыновіч справядліва задаваў пытанні: чаму ў фінансава-эканамічным упраўленні міністэрства з 15 пасадаў ажно 10 палкоўніцкіх? Навошта ў штабе міністэрства створаныя 20 сакрэтных і 30 несакрэтных справаводстваў? Гурыновіч настойваў на спецыяльнай камісіі для праверкі дзейнасці Мінабароны.

### Крадзяжы і карупцыя

Але найпершая праблема была ў раскраданні вайсковай маёмасці, тэхнікі і зброі. 29 мая 1992 года «Народная газета» выйшла з такім загалоўкам на першай паласе: «Если у Министерства обороны Беларуси



Прысяга на плошчы Незалежнасці ў Мінску 8 верасня 1992 года

что-либо украдут, звоните по телефону 29-24-63». 13 лютага 1993 года старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч на нарадзе па пытаннях законнасці і правапарадку казаў, што колькасць выпадкаў крадзяжу вайсковай маёмасці павялічылася ў тры разы, а ўвогуле злачыннасць у арміі ўзрасла на 70%.

Са скандалу пачалася і кар'ера самога Казлоўскага. Скандал быў звязаны з 5-й гвардзейскай танкавай арміяй у Бабруйску, дзе былі выкрыты факты выкарыстання вайсковай тэхнікі і асабовага складу для будаўніцтва шыкоўнага асабістага дома камандуючага арміяй генерал-лейтэнанта Станіслава Румянцава. Таксама сталі вядомыя непрыемныя факты ў дзейнасці ўласнай камісіі штаба арміі. Адпаведнае журналісцкае расследаванне Сяргея Крапівіна, апублікаванае ў «Народнай газеце» 14 жніўня 1992 года пад назвай «Вязкая броня», стала сапраўднай бомбай.

Справа набыла такі рэзананс, што вымусіла ўмяшацца ўрад. 28 жніўня 1992 года ў «Народнай газеце» быў апублікаваны зварот Генадзя Данілава (фактычна правай рукі Кебіча) — начальніка ўпраўлення грамадскай бяспекі і абароны Упраўлення Савета міністраў. Данілаў запэўніў, што ўжо створана камісія, а вінаватыя абавязкова будуць прыцягнутыя да адказнасці. Само міністэрства вымушана было зрабіць заяву, паводле якой Румянцаў і яшчэ 11 высокапастаўленых вайскоўцаў будуць звольненыя ў запас, і што распачалася праверка ў іншых вайсковых частках.

Неўзабаве Казлоўскі выдаў загад №93 «Аб злоўжываннях у 5-й гвардзейскай танкавай арміі і пакаранні вінаватых». СМІ і шэраг дэпутатаў крытыкавалі міністра за залішнюю мяккасць у адносінах да падначаленых. У выніку Казлоўскі ўвогуле абвясціў пра расфармаванне 5-й арміі і стварэнне на яе базе новай аператыўна-тактычнай адзінкі (якой — не ўдакладнялася).

Пасыпаліся пытанні наконт мэтазгоднасці гэтага кроку: у выніку працу і жыллё страчвалі шмат афіцэраў. Дэмакратычную грамадскасць абурыла тое, што новай адзінкай быў прызначаны камандаваць генерал Уладзімір Усхопчык, які ў студзеньскіх падзеі 1991 года ў Літве ўзначальваў Вільнюскі гарнізон, і які, як і дагэтуль сцвярджае літоўскі бок, датычны да гібелі 14 грамадзян Літвы.

Раз-пораз міністэрства скаланалі іншыя скандалы, звязаныя з раскраданнем маёмасці і тэхнікі. Так было, напрыклад, у Гродзенскай вобласці з камандным пунктам (аб'ект «Свіслач») штаба Узброеных Сіл Арганізацыі Варшаўскага Дагавора (13 лістапада 192 года Вярхоўны Савет вымушаны быў стварыць адпаведную камісію). А ў Стаўбцоўскім раёне зімой 1993 года Кантрольнай палатай былі зафіксаваны спробы незаконнага вывазу ў Расію нават ядзерных ракет!

## І, канешне ж, палітыка

Палітычнай праблемай стала вайсковая прысяга. Мінабароны дамаглося, каб афіцыйна яна была прынесеная 31 снежня 1992 года, і рашуча выступіла супраць ініцыятывы Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) на чале з падпалкоўнікам Мікалаем Статкевічам прынесці прысягу 8 верасня 1992 года на плошчы Незалежнасці.

Акцыя БЗВ, прыўрочаная да бітвы пад Воршай 8 верасня 1514 года, была санкцыянаваная мінскімі ўладамі. У звароце да Вярхоўнага Савета і Савета міністраў калегія Мінабароны назвала акцыю антыдзяржаўнай, бо тая нібыта прыўносіць у працэс дзяржаўнага ваеннага будаўніцтва палітычны аспект: стварае прэцэдэнт падзелу паўнамоцтваў дзяржавы і грамадска-палітычных арганізацый у адносінах да Узброеных Сіл. Гэтай акцыяй, сцвярджалася ў звароце, армія, якая імкнецца быць непалітызаванай і выказвае інтарэсы народа, можа аказацца расчлянёнай па палітычных прыхільнасцях.

Ціск на БЗВ з боку міністэрства асудзіў Анатоль Майсеня. У сваёй публікацыі «Вайна без пераможцаў» («Народная газета», 1992, 8 верасня) ён справядліва адзначыў, што БЗВ пры ўсіх сваіх недахопах мае патрыятызм — тое, без чаго немагчыма стварэнне нацыянальнай арміі, і раскрытыкаваў падыход Мінабароны, якое лічыла, што сапраўднае нацыянальнае войска можна атрымаць шляхам простай трансфармацыі былой Беларускай ваеннай акругі.

Бадай, самым ганебным для Казлоўскага эпізодам стала звальненне з Узброеных Сіл лідара БЗВ, кандыдата тэхнічных навук і падпалкоўніка, дацэнта Мінскага вышэйшага ваенна-інжынернага вучылішча Мікалая Статкевіча.

25 сакавіка 1993 года міністэрства дамаглося, каб у закон аб статусе ваеннаслужачых была ўнесена папраўка, якая забараняла ім займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю. Выступаючы ў Вярхоўным Савеце, Казлоўскі назваў БЗВ «политическим наконечником» для наскокаў на войска з боку нацыяналістычных сіл. З прыняццем папраўкі ў міністра былі развязаныя рукі. 7 мая 1993 года Казлоўскі выдаў загад №0499, паводле якога «за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра» Мікалай Статкевіч быў з войска звольнены. Каб прыдаць звальненню большую легітымнасць і паказаць, што перад законам усе роўныя, быў створаны прэцэдэнт: у маі 1993 года нібыта па ўласным жаданні з войска сышоў Сяргей Гайдукевіч, які вырашыў пайсці ў вялікую палітыку.

У абарону Статкевіча выступілі дэпутаты парламента Галіна Сямдзянава (узначаліла грамадскі камітэт «Вяртанне», які займаўся пытаннямі вяртання беларускіх вайскоўцаў з краін СНД) і Леанід Дзейка. Апошні, выступаючы перад Вярхоўным Саветам 19 мая 1993 года, заявіў, што ў працэдуры звальнення Статкевіча маецца шэраг парушэнняў. У прыватнасці, загад на звальненне з фармулёўкай «за дыскрэдытацыю» патрабаваў наяўнасці хадайніцтва (прадстаўлення) таварыскага суда або афіцэрскага сходу, чаго не было.

Дзейка накіраваў запыт у пракуратуру. 2 чэрвеня 1993 года намеснік генпракурора Віктар Юрэвіч прадставіў у Вярхоўны Савет афіцыйнае паведамленне, у якім абгрунтоўваў законнасць звальнення Статкевіча.



Генерал Станіслаў Румянцаў



Генерал Уладзімір Усхопчык



Генерал Пётр Чавус

## Казлоўскі супраць Лукашэнкі

Скандалы ва Узброеных Сілах не мог не скарыстаць дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня часовай камісіі па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структур пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання Аляксандр Лукашэнка.

Чорная котка паміж дэпутатам і міністрам прабегла яшчэ раней, калі 3 лістапада 1992 года Лукашэнка раскрытыкаваў праект ваеннай дактрыны, агучаны Казлоўскім. Дактрына прадугледжвала абарончы характар беларускага войска і яго істотнае скарачэнне. Навошта, пытаўся Лукашэнка, такая армія: «Давайте будем иметь два полка с перьями и на них любоваться». Дэпутат заклікаў «улучшить жизнь военных», інакш армія «очень быстро исправит нашу доктрину».

«Час Х» у адносінах паміж Казлоўскім і Лукашэнкам настаў 24 сакавіка 1994 года, калі ў газеце «Звязда» з'явілася нататка «Што ў чамаданах Лукашэнкі?». У ёй сцвярджалася, што каля 50-ці вышэйшых службовых асобаў і дэпутатаў датычныя да карупцыі. Сярод гэтых «50-ці» разам з намеснікамі Кебіча Сяргеем Брылём і Мікалаем Косцікавым, міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам, старшынёй Дзяржаўнага камітэта па знешнеэканамічных сувязях Уладзімірам Радкевічам фігураваў і Павел Казлоўскі. З боку Лукашэнкі Мінабароны закідваліся пастаўкі зброі і нафты ў Югаславію, а таксама актыўная камерцыйная дзейнасць.

Невялічкая па аб'ёме нататка выклікала вялікі грамадскі рэзананс і жорсткую рэакцыю службоўцаў. 29 сакавіка 1994 года Брыль, Косцікаў, Краўчанка, Радкевіч і Казлоўскі выступілі ў прэсе з сумеснай заявай, ад пачатку і да канца накіраванай супраць Лукашэнкі. Падпісанты заявы адзначалі: «Свой путь к президентскому креслу некоторые кандидаты избрали исключительно безнравственный, основанный на клевете и шельмовании тех, кто стоит у них на пути».

Чыноўнікі абяцалі звярнуцца ў суд па абарону гонару і годнасці, а ад генпракурора «потребовали выступить в средствах массовой информации с официальной оценкой правомерности поступков Лукашенко и достоверности тех материалов и фактов, которые имеют место в нашей деятельности».

31 сакавіка 1994 года Казлоўскі і іншыя службовыя асобы былі запрошаныя на пасяджэнне сесіі Вярхоўнага Савета. Міністр абароны заявіў, што цікавасць Лукашэнкі да яго ведамства «вызывает лишь удивление», і што яна выспела «на волне нездоровых амбиций и предвыборного популизма». Парыруючы абвінавачванні Лукашэнкі ў тым, што Мінабароны і створаная ім кампанія «Трансавіяэкспарт» займаюцца камерцыйнай дзейнасцю, Казлоўскі звярнтаў увагу, што гэта — вымушаная неабходнасць, выкліканая цяжкім фінансавым становішчам: «Может, лучше чтобы эти авиагиганты «ИЛ-76» гнили на аэродромах? Наша компания — государственное предприятие, но с помощью простенького передергивания фактов она преподносится как гнездо, как кормушка для военных коррупционеров».

Наступны віток супрацьстаяння Казлоўскага і Лукашэнкі адбыўся падчас прэзідэнцкіх выбараў, у прыватнасці, пасля трыумфальнага для Лукашэнкі першага тура, які адбыўся 23 чэрвеня 1994 года.

30 чэрвеня 1994 года Казлоўскі на прэс-канферэнцыі абвінаваціў Лукашэнку ў нападках на войска, ахарактарызаваўшы вынікі першага тура як «успех популизма в лице его ярчайшего представителя». Назваўшы бліжэйшых паплечнікаў Лукашэнкі — таксама ваенных (Віктара Кучынскага і Віктара Шэймана) — «гастролерами, оторвавшимися от реальной армейской жизни», міністр абароны патрабаваў «прекратить разнузданную кампанию очернительства руководящего состава Вооруженных Сил и лично министра обороны со стороны распоясавшегося депутата».

Неўзабаве рушылі заявы Казлоўскага ў суд, Вярхоўны Савет і Генпракуратуру. Міністр абароны настойваў на прынцыповым разглядзе пытання парушэння Лукашэнкам дэпутацкай этыкі і патрабаваў прыцягнуць яго да крымінальнай адказнасці. Некаторыя дэпутаты сцвярджалі, што Лукашэнка асабіста звяртаўся да Казлоўскага: «Павел Павлович, забери заявление, хуже будет». Казлоўскі адмовіўся, а Лукашэнка не з'явіўся на суд. Лукашэнка зрабіў некалькі заяў накшталт таго, што калі стане прэзідэнтам, то «разберется с министром обороны и с армией в целом».

## Першая помста

Пасля перамогі Лукашэнкі 10 ліпеня 1994 года на прэзідэнцкіх выбарах прыцягнуць яго да судовай адказнасці стала немагчыма. Аднак кіраўнік дзяржавы на Казлоўскага не забыўся, тым больш, што генерал сам даў добрую нагоду. У чэрвені 1994-га Казлоўскі трапіў у скандал, звязаны з вяселлем яго сына і дачкі старшыні Вярхоўнага Савета Мечыслава Грыба. Прэса сцвярджала, што на гэтым вяселлі ў Калодзішчах прысутнічала каля 200 чалавек, і яно, быццам, ахоўвалася дэсантнікамі.

На праверку Лукашэнка кінуў новастворaную структуру — службу кантролю адміністрацыі прэзідэнта. Пра выніку праверкі можна даведацца з адпаведнага ўказа №83 ад 5 верасня 1994 года: «Проверкой, проведенной службой контроля администрации президента Республики Беларусь, установлено, что бывший министр обороны Республики Беларусь генерал-полковник Козловский П.П., отмечая 11–12 июня 1994 г. свадьбу сына, использовал свое служебное положение в личных целях, что повлекло причинение государству ущерба в крупном размере». «Советская Белоруссия» ў лютым 1995 года ў адным з нумароў сцвярджала, што гаворка ішла пра 27 мільёнаў рублёў. У выніку Казлоўскі быў паніжаны да генерал-лейтэнанта. А пазней начальнік службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта Васіль Даўгалёў заявіў, што інфармацыя аб ахове вяселля дэсантнікамі не пацвердзілася.

Вясной 2015 года Павел Казлоўскі пры падтрымцы вядомых расійскіх генералаў звярнуўся да Лукашэнкі з просьбай зняць спагнанне дваццацігадовай даўніны. Казлоўскі сцвярджаў, што ніякай шкоды дзяржаве не нанёс. У просьбе былы міністр абароны звяртаў увагу на 70-годдзе перамогі на германскім фашызмам. Беларускі кіраўнік дэманстратыўна праігнараваў, а яго адміністрацыя заявіла, што ніякай заявы за подпісамі Казлоўскага і расійскіх генералаў не атрымлівала. Праз год Казлоўскі праз «Народную Волю» зноў звярнуўся да Лукашэнкі. І зноў маўчанне.

Не трэба быць такім наіўным былому, але першаму міністру абароны Беларусі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. У нядзелю зрынуць Пуціна?

Набліжаецца нядзеля, 5 лістапада. Менавіта на гэты дзень яшчэ два гады таму найбольш радыкальная фракцыя антыпуціністаў прызначыла народную рэвалюцыю. Нягледзячы на тое, што лідар гэтай групоўкі Вячаслаў Мальцаў быў вымушаны эміграваць, падрыхтоўка да рэвалюцыі працягвалася. Не так даўно на YouTube з'явіўся ролік Мальцава, які прапанаваў сцэнар паўстання. Мальцаў бачыць яго ў фармаце прамога рэферэндуму, на які неабходна вывесці як мага больш людзей. Праціўнікі Пуціна павінны стаяць на вуліцах і заяўляць патрабаванні да ўлады: неадкладная адстаўка Пуціна і ўрада на чале з Мядзведзевым, роспуск Дзярждумы і Савета Федэрацыі, адстаўкі іншых чыноўнікаў. Аднак ёсць і іншая схема: паспрабаваць перафарматаваць арганізаваныя ўладай маніфестацыі ў Дзень народнага адзінства, 4 лістапада. Усяго паўстанні запланаваныя ў 20-ці гарадах. Большасць палітолагаў скептычна ставяцца да напалеонаўскіх планаў Мальцава і яго каманды, аднак выключаць эксцэсаў нельга. Заклікі Мальцава размясціў у сябе на акаўнце Аляксей Навальны — гуру пратэстнай часткі расійскай моладзі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Рэгіёны пакідаюць Каталонію

Лёс Каталоніі, якая абвясціла незалежнасць, застаецца нявызначаным, але ўнутры краю ўжо з'явіліся свае сепаратысты. Гэта жыхары раёна Валь-д'Аран, які знаходзіцца на паўночным захадзе Каталоніі на мяжы з Іспаніяй. Кіраўнік рэгіёну заявіў аб скліканні савета, які разгледзець пытанне пра магчымы выхад краю са складу Каталоніі. Працэс выхаду плануецца запусціць у выпадку, калі Каталонія сапраўды ператворыцца ў самастойную дзяржаву. Мясцовыя юрысты ўжо ламаюць галаву, як юрыдычна аформіць развод з Барселонай. Напэўна, адным з аргументаў за права жыхароў на самавызначэнне можа быць існаванне адмысловай аранскай мовы, якая блізкая да правансальскай. Акрамя таго, па ходзе гісторыі Валь-д'Аран меў аўтаномны статус. Верагодней за ўсё, казус Валь-д'Арану не будзе адзінкавым. Напярэдадні рэферэндуму аб незалежнасці 1 кастрычніка кіраўніцтва прыкладна 200 з 900 каталонскіх муніцыпалітэтаў заблакавала правядзенне мерапрыемства на падкантрольнай тэрыторыі. Застаецца ўзгадаць невялікі кур'ёз — ідэю выхаду з Каталоніі масава падтрымалі вучні-школьнікі Валь-д'Арана, якія скардзяцца на тое, што вывучаць тры мовы (іспанскую, каталонскую і аранскую) вельмі цяжка.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. У 2021-м да ўлады прыйдуць «нацысты»?

Сустаршыня фракцыі правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» ў Бундэстагу Аліса Вайдэль паабяцала, што ў 2021-м яе партыя будзе сябрам ураду. Нагадаем, 24 верасня ў Германіі прайшлі выбары ў Бундэстаг. Упершыню ў нямецкі парламент увайшла правая «Альтэрнатыва для Германіі». Яна набрала 12,6% галасоў і стала трэцяй па значнасці сілай. Вайдэль адзначыла, што ў бягучым заканадаўчым перыядзе правыя з'яўляюцца апазіцыяй, але ў сярэднетэрміновай перспектыве яны ставяць за мэту «здабыць форму ва ўрадзе». Абяцанне вельмі раз'юшыла прагрэсіўную грамадскасць, якая ўспрымае «Альтэрнатыву для Германіі» як партыю латэнтных фашыстаў. Напрыклад, былы экс-кіраўнік нямецкай дыпламатыі Ёшка Фішэр лічыць, што сябры «Альтэрнатывы для Германіі» разважаць як нацысты. Самае цікавае, што будучыя поспехі партыі Вайдэль разглядае як перамогу фемінізму. На яе думку, калі «Альтэрнатыва для Германіі» стане ўрадавай партыяй, Германія будзе моцнай і жаночай дзяржавай.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Керанскі — кумір кіргізаў

Фігура Аляксандр Керанскага наўрад ці мае пазітыўныя канатацыі ў масавай свядомасці. Кіраўнік Часовага ўраду пасляцарскай Расіі лічыцца слабаком і дэмагогам, які не здолеў лакалізаваць рэвалюцыйны рух. Акрамя таго, дасюль папулярны анекдот пра тое, што Керанскі збег з Зімняга палацу, апрануўшы жаночую вопратку (на самай справе, ён спакойна з'ехаў на машыне амерыканскага пасла). Тым больш незвычайна, што ў Аляксандра Фёдаравіча раптам з'явіліся фанаты. Імі аказаліся кыргызы, а менавіта прэзідэнт краіны Алмазбек Атамбаеў. На мінулым тыдні ён адмяніў святкаванне гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, замяніўшы яго на свята «Дні гісторыі і памяці продкаў». У іх межах будуць адзначаць гадавіну паўстання 1916-га, калі паўсталі незадаволеныя мабілізацыяй на прымусовую працу кыргызы і казахі. У адказ на бунт Расія даслала войскі, якія скончылі карную аперацыю толькі пасля лютаўскай рэвалюцыі па загадзе прэм'ера-дэмакрата Аляксандра Керанскага. Пра гэты ўчынак Керанскага і згадаў Атамбаеў. Тое, што ў Кіргізіі пачалі шанаваць Керанскага, не выклікала захаплення ў Расіі. Расійская патрыятычная прэса лічыць, што рашэнне Керанскага вывесці войскі з Цэнтральнай Азіі дазволіла мясцовым жыхарам знішчаць рускіх каланістаў.

**Паводле кыргызскай прэсы**

# Ці пагражае Украіне «багданапад?»

*Алег НОВІКАЎ*

**Рашэнне дэпутатаў Пераяслаў-Хмяльніцкага гарсавета пазбавіцца ад згадкі ў назве населенага пункта імя гетмана Багдана Хмяльніцкага выклікала чуткі пра тое, што на змену «ленінападу» ва Украіну ідзе «багданапад».**


Фота www.inosmi.ru

Усяго ва Украіне налічваецца 112 помнікаў Хмяльніцкаму. Прычына падазраваць, што ім пагражае дэканструкцыя, зразумелая. Хаця Хмяльніцкі і быў заснавальнікам Гетманшчыны — эмбрыёну ўкраінскай дзяржаўнасці, — яго фігура адназначна выклікае асацыяцыю з Пераяслаўскай радай — прысягай казакоў на вернасць рускаму цару Аляксею Міхайлавічу ў 1654 годзе. Гэтага больш чым дастаткова для таго, каб запісаць Багдана Хмяльніцкага ў спіс падазроных гістарычных асобаў.

Нездарма частка ўкраінскіх нацыяналістаў неаднаразова заклікала да рэвізіі постаці гетмана ў падручніках гісторыі. Дастаткова ўзгадаць пасаж з вершу Тараса Шаўчэнкі, дзе аўтар абвінавачвае Хмяльніцкага ў здрадзе Украіне.

Адзін з галоўных аргументаў за тое, каб выкінуць Хмяльніцкага з гістарычнага пантэону, — таксама і яго незразумелае нацыянальнае паходжанне. Шмат хто лічыць, што лідар казакоў быў этнічным палякам, які абсалютна выпадкова, праз жаданне адпомсціць польскай адміністрацыі, стаў лідарам украінскага паўстання.

Так ці інакш, з пачаткам расійска-ўкраінскай вайны ў 2014-м армія крытыкаў Хмяльніцкага павялічылася. Іх рупарам выступіў алігарх Міхаіл Бродскі, які яшчэ ў мінулым годзе прапанаваў знесці помнік правадыру казакоў на Сафійскай плошчы Кіева, замяніўшы яго на мемарыял у гонар загінулых герояў АТА. «Руская — ворагі? Так. Расійская імперыя 300 гадоў была захопнікам. Дык чаму ў нас стаіць помнік Хмяльніцкаму? Давайце яго знясём і замест яго паставім нарэшце стэлы гэтым хлопчыкам, якія пралілі кроў за нашу незалежнасць», — пісаў Бродскі.

Гэтым летам Багдан Хмяльніцкі канчаткова страціў своеасаблівую сакральнасць. Яго скульптуру ў Чарнігаве разгарнулі на 180 градусаў, каб паставіць помнік спінай да Масквы. Адразу ўзгадалі, што Хмяльніцкі і ў Кіеве на Маскву паказвае, і някепска было б і яго павярнуць таксама. Праўда, адначасова паўстала думка, што паварот помніка спінай да краіны-агрэсара — сігнал капітуляцыі, гатоўнасці да ўцёкаў. Менавіта пазіцыя анфас сімвалізуе гатоўнасць годна сустракаць ворага тварам да твару.

Цяпер трэнд «дэбагданізацыі» працягнулі ў Пераяславе. Праўда, мясцовыя чыноўнікі не бачаць у сваім рашэнні замаху на асобу або спадчыну Багдана Хмяльніцкага. Па іх словах, гетман проста трапіў пад дэкамунізацыю. Менавіта камуністы, пасля таго, як Чырвоная Армія ў 1943 годзе адбіла горад у фашыстаў, прыдумалі яму новую назву. За кошт перайменавання савецкае кіраўніцтва спадзявалася надаць у вачах украінцаў вайне з Гітлерам характар нацыянальна-вызвольнай.

Такая версія, праўда, трошкі кульгае. Сярод украінскіх камуністаў даўно папулярная тэорыя, паводле якой Хмяльніцкі быў здраднікам простага народу. Пераяслаўская рада, маўляў, спатрэбілася яму і яго атачэнню, каб за кошт расійскіх гарнізонаў спыніць казацкую стыхію і стаць звычайнымі феадаламі. Менавіта гэтая версія Пераяслаўскай рады і асобы Хмяльніцкага прадстаўленая ў першай савецкай энцыклапедыі.

Так ці інакш, у версію пра тое, што Хмяльніцкі выпадкова трапіў пад дэкамунізацыю, шмат хто не паверыў. Ва ўкраінскай прэсе хапае інсінуацый наконт непазбежнасці «багданапада». Не спыніла мноства плётак і афіцыйная заява Інстытута нацыянальнай памяці, які каардынуе гістарычную палітыку ў краіне. У інстытуце рэкамендавалі разумець фігуру Хмяльніцкага наступным чынам: «Гетман падпісваў саюзы з Польшчай, Літвой, Турцыяй, Крымскім ханствам. Саюз з Расіяй быў усяго толькі адным з такіх. Пасля смерці Хмяльніцкага Масква выкарыстоўвала яго для захопу Украіны».

Негалосна лічыцца, што лёс гетмана залежыць ад вынікаў дэбатаў наконт назвы горада Хмяльніцкі, што на Падоллі. Горад таксама стаў Хмяльніцкім у выніку штучнага рашэння, каб надаць большы маштаб 300-й гадавіне Пераяслаўскай рады, якую святкавалі ў 1954 годзе. Акрамя таго, сам Хмяльніцкі ў горадзе свайго імя ніколі не быў зусім.

Мясцовыя нацыяналісты ўжо двойчы без поспехаў падавалі ў гарсавет петыцыі з просьбай вярнуць гораду гістарычную назву — Праскураў. Тое, што бацькі гораду ігнаравалі падобныя заклікі, тлумачыцца і некаторымі эпізодамі гісторыі. Вяртанне гораду назвы Праскураў адразу зробіць візіткай гораду «праскураўскі пагром». Габрэйскі пагром у Праскураве, які ажыццявілі пятлюраўцы ў лютым 1919 года, не без падстаў лічыцца самым крывавым пагромам у гады Грамадзянскай вайны. Тады, калі верыць афіцыйным крыніцам, былі забітыя 1600 чалавек.

Сваю думкай наконт вынікаў цяперашняй дыскусіі з НЧ падзяліўся ўкраінскі журналіст і палітолаг Юры Палянін:

— Рашэнне аб перайменаванні Пераяслаў-Хмяльніцкага было прынята напярэдадні савета прадстаўнікоў рэгіёнаў з удзелам прэм'ера і прэзідэнта. Верагодна, жаданнем станоўча засвяціцца ў вачах кіраўніцтва і тлумачыцца ўся ініцыятыва з новай назвай. Што тычыцца чутак пра «багданапад», гэта хутчэй прадукт дзейнасці расійскіх медыя, якія да гэтага часу маюць сваю аўдыторыю ва Украіне. Хоць тэму пагрозы «багданапада» мусіруе частка мясцовай праваслаўнай інтэлігенцыі, у гэта верыцца слаба. Хмяльніцкі — частка казацкага міфа, які кансалідуе ўкраінскае грамадства, і сумнеўна, што нейкі палітык захоча яго аспрэчыць. Тым больш з рызыкай, што той міф будуць намагацца перахапіць у Маскве. Нагадаю, што ўлетку сепаратысты нейкі час спрабавалі зрабіць праект «Маларосія» — альтэрнатыву цяперашняй Украіне. Маларасійскай дзяржаўнай атрыбутыкай меў стаць асабісты штандар Хмяльніцкага.


Фота www.mdr.de

# За і супраць Лютэра

Алег НОВІКАЎ

**З нагоды 500-й гадавіны Рэфармацыі Германію ахапіла сапраўдная «лютэраманія». Праўда, бурлівыя святкаванні не замінаюць цікавым дэбатам пра спадчыну Марціна Лютэра.**

Лепш за ўсё, пра маштаб урачыстасцяў сведчаць неверагодныя ідэі бізнесменаў, як выкарыстаць у камерцыйных мэтах вобраз Лютэра. У нямецкіх крамах можна набыць памідоры Лютэра (Luther-Tomaten) або цацку «Лютэр» (шмат хто смяецца, паколькі яна нагадвае Дарта Вейдэра, які, як вядома, абраў цёмны бок сілы). Паводле прэсы, толькі ў апошні момант Евангелічная царква не дапусціла мегаскандалу — нехта спрабаваў выйсці на рынак з прэзерватывамі, на якіх напісаны славуты выраз Лютэра: «Тут я стаю, і не магу інакш».

Культуролагі ў шоку ад такога рэлігійнага ўгару бюргераў: сярэднестатыстычны немец — не самы вялікі аматар хадзіць у царкву. Усё, што ён ведае пра заснавальніка Рэфармацыі, вельмі часта абмяжоўваецца клішэ-анекдотам пра тое, як у 1517-м Лютэр прыбіў на дзверы царквы ў Вітэнбергу свае 95 антыпапскіх тэзісаў.

Таму феномен папулярнасці Лютэра тлумачыцца агульным уплывам пратэстантызму на нямецкую культуру. Такія фішкі Рэфармацыі, як прагматызм, музычныя спевы, строгая вопратка, сталі нямецкім культурным кодам. Рэфармацыя нават паўплывала на нормы мовы. Падчас перакладу Біблії на нямецкую Лютэр імкнуўся пісаць так, каб тэкст лёгка разумеўся простымі людзьмі. Гэта зрабіла Біблію Лютэра народнай кнігай у Германіі, што спрыяла стварэнню моўнага літаратурнага стандарту.

Юбілей Рэфармацыі, як і любое іншае свята, не абышоўся без вылазак крытыкаў. Напрыклад, вядучы бізнес-часопіс «Wirtschaft Woche» ўспрымае цяперашнюю «лютэраманію» як здзек з Лютэра, які крытыкаваў Ватыкан за раскошу. Што б сказаў Лютэр, калі б даведаўся пра тое, што цяперашні юбілей Рэфармацыі каштаваў 3 мільярды еўра?

Гісторыкі звяртаюць увагу на тое, што тэзісы Лютэра сталі бомбай з гадзіннікавым механізмам пад грамадскі парадак. Тагачасны тэзіс Лютэра — пратэст супраць існуючых парадкаў адпавядае Божаму слову — адразу падхапілі ідэолагі радыкальных сацыяльных рухаў. Яшчэ пры жыцці яны спрабавалі будаваць Царства Божае на зямлі, напрыклад, у выглядзе мюнцэраўскай камуны.

Спробы аказаліся правальнымі, аднак яны далі штуршок паступоваму фармаванню камуністычнай ідэалогіі. Не дзіўна, што ў ГДР тая ж мюнцэраўская камуна разглядалася як першая

**Тагачасны тэзіс Лютэра — пратэст супраць існуючых парадкаў адпавядае Божаму слову — адразу падхапілі ідэолагі радыкальных сацыяльных рухаў**

спроба пабудову сацыялізму на нямецкай зямлі. Адна з аўтарак самай вядомай нямецкай тэрарыстычнай групоўкі «Фракцыя Чырвонай Арміі» (RAF) Гудрун Энслін была вядомая як фанатычная пратэстантка. З асяроддзя пратэстантаў паходзіць і Фрыдрых Ніцшэ — кумір правых радыкалаў, якія, дарэчы, шанавалі Лютэра за яго антысемітызм.

Бацьку Рэфармацыі таксама закідваюць і палітычны раскол Германіі. Каталіцкая і пратэстанцкая фракцыі нямецкай эліты ваявалі паміж сабой амаль да Вестфальскага міру (1648 год). Аб'яднанне краіны давялося чакаць яшчэ амаль 200 гадоў.

Аднак ёсць і апаненты. З'яўленне ў Еўропе радыкальнага пратэстанцкага кола прымусіла ўлады перайсці да практыкі рэпрэсій. Адной з самых папулярных формаў выратавання ад пераследу для пратэстантаў стала эміграцыя ў Новы свет. Лічыцца, што дух першых місіянераў з часам заклаў фундамент кодэксу знешняй палітыкі ЗША, які стаў разглядацца як глабальны праект. Нельга таксама не ўзгадаць Маркса Вебера, які лічыў, што якраз пратэстанцкая аскеза стварыла этыку чалавека ва ўмовах капіталізму.

Калі ўжо гутарка пра аскезу, як прайсці міма апошняга артыкула ў брытанскім часопісе «Economist»? Журналісты вылічылі пратэстантаў у цяперашнім першым эшалоне нямецкай улады — і былі шакаваныя. Да пратэстанцкіх вернікаў належыць канцлер Ангела Меркель (яна дачка пастара), міністр фінансаў Вольфганг Шаўбле і іншыя ключавыя фігуры. Такі пасьянс дазволіў брытанскаму часопісу сцвярджаць: сакрэт нямецкага эканамічнага цуда звязаны з рэлігіяй. Маўляў, для Меркель і яе міністраў-пратэстантаў неабходнасць эканоміць разглядаецца як маральны імператыў яшчэ больш працаваць.

Гэта дастаткова правакацыйны падыход. Атрымліваецца, што ў канцлера-каталіка ва ўмовах крызісу проста апусціліся б рукі — вера дыктавала б яму ўспрыняць тыя ж эканамічныя праблемы як нейкую Божую кару? Гісторыя не пакідае на такой тэорыі каменя на камяні. Дастаткова ўзгадаць імёны такіх канцлераў-каталікоў, як Конрад Адэнаўэр — заснавальнік ФРГ і яе эканамічнай мадэлі, або Гельмут Коль — канцлер адзінства. Больш за тое, прыналежнасць да Касцёлу толькі спрыяла росту міжнароднай ролі ФРГ, паколькі каталікі, як лічыцца, бачаць свет больш глабальна.

Нарэшце, дыскурс — хто больш зрабіў для Германіі, каталікі або пратэстанты, як Лютэр паўплываў на нацызм і гэтак далей — не выходзіць за старонкі «разумнай» прэсы. Абсалютная большасць немцаў сёння бачаць у Лютэры перш за ўсё чалавека, які сваім прыкладам давёў: альтэрнатыва заўжды магчымая.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Алмазбек Атамбаеў



Атамбаеву яшчэ роўна месяц заставацца ў крэсле прэзідэнта Кыргызстана — да інаўгурацыі наступнага кіраўніка дзяржавы. Але наўрад ці фінал кадэнцыі Атамбаева абыдзецца без скандалаў.

Паводле збегу абставінаў, кыргызскі гарант за апошні час пасварыўся са многімі значнымі палітычнымі актарамі. З ім на нажах Назарбаеў, які не дараваў Атамбаеву крытыкі за спробу ўмяшання ў кыргызскія прэзідэнцкія выбары ў кастрычніку. Атамбаева цяпер люта ненавідзяць у Маскве з-за пастановы пра святкаванне ў Кыргызстане дня антырасійскага паўстання ў 1916 годзе. Нарэшце, ён умудрыўся нажыць сабе ворага ўнутры краіны з-за трактоўкі тэксту Манасу — кыргызскага старажытнага геракічнага эпасу пра жыццё і подзвігі абаронцаў кыргызскай зямлі ад чужаземных захопнікаў.

На днях Атамбаеў сказаў, што галоўным героям эпасу здрадзілі продкі людзей, які зараз жывуць у раёне Талас. Таму, па словах прэзідэнта Кыргызстана, няма нічога дзіўнага ў тым, што жыхары Таласу падтрымалі на апошніх выбарах непрыемнага Атамбаеву кандыдата.

Жыхары Таласу такой інтэрпрэтацыі эпасу не даравалі. У мінулую нядзелю каля будынка абласной адміністрацыі адбыўся мітынг, у якім, паводле розных ацэнак, удзельнічала каля тысячы чалавек. Пратэстоўцы запатрабавалі ад прэзідэнта прабачэнняў.

Сітуацыя пагаршаецца тым, што клан Таласу спецыялізуецца на рээкспарце кітайскіх тавараў. Як следства, будучы ахвярай памежнай блакады, якую ўвяла супраць Бішкека Астана, у Таласе настроены вельмі рашуча. Так што агаворка Атамбаева з нагоды Манасу можа на выхадзе каштаваць прэзідэнту і яго пераемніку вельмі дорага.

### Карлес Пучдэман



Кіраўнік самаабвешчанай Каталонскай Незалежнай Рэспублікі 30 кастрычніка збег у Брусэль — і ператварыўся ў аб'ект шматлікіх жартаў.

Між тым, у сур'ёзнай прэсе хапае тэкстаў, аўтары якіх заклікаюць не спісваць палітыка. Па сутнасці, каталонскі крызіс дасюль не вырашаны. Выбары 21 снежня ў рэгіянальны парламент могуць ператварыцца ў нефармальны рэферэндум аб пацвярджэнні незалежнасці. У выпадку, калі яе аматары атрымаюць перамогу, Мадрыду давядзецца распісацца ў адсутнасці прававых інструментаў утрымаць край. У сувязі з гэтым шэраг медыя заклікаюць іспанскі ўрад адмовіцца ад пераследу арганізатараў забароненага рэферэндуму пра незалежнасць, каб не драматызаваць сітуацыю.

Нарэшце, варта ўзгадаць, што фіяска Пучдэмана не вырашае глабальнага пытання. Ніхто не адмяняў еўраінтэграцыю, па ходзе якой усё больш паўнамоцтваў нацыянальных урадаў будуць перадавацца ў Брусэль. На нейкім этапе нацыянальныя сталіцы будуць вельмі слабыя. У такі час рэгіёны змогуць патрабаваць незалежнасці, апелюючы да кіраўніцтва ЕС, для якога тэма дзяржаўнага адзінства той жа Іспаніі — не табу.

На думку спецыялістаў, такі сцэнар магчымы ўжо праз 10 гадоў. Пасля чаго Пучдэман мае шанец вярнуцца на радзіму як нацыянальны герой.

### Пётр Парашэнка



Акрамя функцый прэзідэнта і ўладальніка кампаніі «Рашэн», Пётр Аляксеевіч узначальвае палітычную партыю «Блок Пятра Парашэнкі» (БПП). Апошняя зрабіла сапраўдны цуд на выбарах у саветы аб'яднаных тэрытарыяльных грамад (новая адміністратыўная адзінка ва Украіне), што прайшлі 29 кастрычніка.

БПП у сярэднім па краіне атрымаў у тых саветах каля 50 працэнтаў дэпутацкіх мандатаў. Фішка ў тым, што ўсе экзіт-полы ў дзень галасавання давалі парашэнкаўцам не больш 18 працэнтаў, а рэйтынг самога прэзідэнта па краіне складае каля 6 працэнтаў.

Яшчэ больш феерычна выглядае геаграфія электаральных прарываў БПП. У Харкаўскай вобласці, якая яшчэ тры гады таму давала амаль сто працэнтаў «Партыі рэгіёнаў», сёння прамайданаўская БПП атрымала каля 82 працэнтаў. А ў некаторых саветах Данецкай вобласці ўвогуле палітычна ўсе дэпутаты маюць партквіткі БПП.

Нават з улікам выкарыстання адмінрэсурсу, падкупу выбаршчыка і фальсіфікацый — лічба папросту фантастычная. На думку палітолагаў, перамога прадстаўнікоў БПП на выбарах у мясцовыя органы самакіравання сведчыць пра тое, што палітычныя эліты проста абралі для сябе актуальны палітычны «парасон». Аднак, як гэта ўжо часта адбывалася, палітычныя перавагі мясцовых элітаў могуць памяняцца ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі.

# Вялікі тэрор у БССР.

« Працяг.
Пачатак у №41

Таццяна ПРОЦЬКА

**Шкодніцкай і дыверсійнай дзейнасцю ў народнай гаспадарцы БССР кіравалі, на думку следчых, былы старшыня СНК БССР Галадзед і яго наместнік Саакян. Акрамя агульнага кіраўніцтва шкодніцтвам, былі яшчэ кіраўнікі па розных галінах.**




Так, шкодніцтвам у паліўна-энергетычнай гаспадарцы кіраваў Пятровіч, у тарфяной прамысловасці — начальнік Белторфа Кузняцоў, у швейнай — дырэктар Белшвейтрэста Карасік, шкодніцтвам у Наркамаце ўнутранага гандлю кіраваў наркам Гурэвіч, у Наркамаце аховы здароўя — Сурта і Бурачэўскі, у мясцовай прамысловасці — старшыня Дзяржплана БССР Лябовіч і працаўнік Дзяржплана Айзэнсон, у галіне сельскай гаспадаркі — сакратар ЦВК БССР Ляўкоў, у галіне свінагадоўлі — Стрэлле. Па лініі Наркамата земляробства — Бенэк, ажыццяўляў кіраўніцтва па распаўсюджванні інфекцыйных захворванняў жывёлы Іваноў, у галіне фінансаў — наркам фінансаў Кудзелька, практычнай падрыўной дзейнасцю ў падатковай сістэме кіраваў Лехерзаг, у камунальнай гаспадарцы — кіраўнікі наркамата Амбражунас і Васерман. Дыверсійна-шкодніцкай працай у прамысловасці кіравалі Гікала, Шаранговіч, Галадзед, Валковіч, Любавіч, Балтын, Геаргадзе, Амбражунас, Васерман. Усе кіраўнікі ААП былі расстраляныя. Верагодна, што частка з іх — у Курапатах.

Улетку 1937 года быў падрыхтаваны «Агляд матэрыялаў аб шкодніцкай рабоце ўдзельнікаў аб'яднанага контррэвалюцыйнага падполля ў БССР». Агляд складаўся з 30 старонак машынапіснага тэксту, уключаў матэрыялы — 20 старонак даведкі «Аб праведзеных нацыянал-фашысцкай арганізацыяй шкодніцкіх, падрыўных і разбуральных актах у прамысловасці і фінансавай гаспадарцы БССР».

Канчатковыя «Вынікі разгрому антысавецкага падполля ў БССР» былі падведзеныя ў чэрвені 1938 года. Яны ўяўляюць сабой брашуру з 70 старонак. Усталяваць дакладную колькасць рэпрэсаваных па гэтых дакументах немагчыма. Следчыя ў 1937–1938 гадах нават не пачыналі спецыяльных крымінальных спраў, абмяжоўваючыся пералікам прозвішчаў асуджаных — так званыя «альбомныя спісы», многія з якіх па розных прычынах не захаваліся.

Для параўнання з сённяшнімі падзеямі ўзгадаем, што сабой уяўляла шкодніцтва, за якое людзі былі расстраляныя.

«Шкодніцкія арганізацыі» былі знойдзеныя па ўсіх асноўных напрамках развіцця сельскай гаспадаркі: пры ўпарадкаванні зямлі, у паляводстве, жывёлагадоўлі, падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў, пры правядзенні арганізацыйных мерапрыемстваў па ўмацаванні і пашырэнні калектывізацыі, у «насаджэнні» ў БССР саўгасаў і гэтак далей.

Шкодніцтва ва ўпарадкаванні зямлі было ў тым, што «нарэзаныя палі сяўбазвароту ў калгасах наўмысна адрываліся ад агранамічнай часткі, у выніку чаго атрымлівалася, што нарэзаныя палі землеўпарадчыкамі заставаліся толькі на плане, не маючы палёў сяўбазвароту, і фактычна калгасы заставаліся без уведзеных сяўбазваротаў і сеялі па-ранейшаму абы-дзе».

Створаныя на былых сялянскіх землях саўгасы (каля 50) аказаліся нерэнтабельнымі, штогадовая страта ад іх дзейнасці складала 12–13 млн. рублёў. Адначасова расла незадаволенасць сялян, гвалтоўна пераўтвораных у сельскагаспадарчых рабочых. «Усе стратныя саўгасы створаны па заданні палякаў», — канстатавалі следчыя, абвінавачыўшы ў шпіёнскай дзейнасці наркама саўгасаў Турлая і яго наместніка Дындзіна.

У галіне паляводства «шкодніцтва» было накіраванае, перш за ўсё, на насенняводства — «у частцы ўліку і захоўвання сартавога матэрыялу і ўліку плошчаў, засеяных сартавым насеннем». Сартавое насенне змешвалі з несартавым і вясной калгасам выдавалі пад выглядам сартавога. У канцы верасня 1937 года арыштавана 9 чалавек: у Мінску — кіраўнік «Белзаготзерно», яго наместнік, начальнік сектара збыту і інструктар па якасці, у Гомелі і Оршы — кіраўнікі мясцовымі канторамі, у Полацку і Лепелі — загадчыкі складамі. Падлягалі арышту яшчэ 25 чалавек, якія, па версіі следчых, займаліся заражэннем збожжа на складах, закідвалі ў муку шкло і метал, зрывалі фінансаванне і рамонт складоў, арганізацыю супрацьпажарнай аховы. Іх таксама зрабілі адказнымі за выпуск недабраякаснага хлеба, перабоі з хлебам у гандлі.

У кастрычніку 1937 года былі арыштаваныя загадчыкі пунктамі і тэхнічныя кіраўнікі «Закупзерне» ў Калінкавічах, Віцебску, Барысаве, Магілёве, Полацку. У Бабруйску кіраўніком арганізацыі названы дырэктар Хайкін. На следстве ён паказаў: «У Закупзерне я і іншыя асобы займаліся шкодніцтвам, заражалі прадукты». Да шкодніцкай акцыі былі аднесены выпадкі зрыву пагрузкі насеннага збожжа, несвоечасовая вывазка на чыгуначную станцыю запчастак да трактароў, угнаенняў. Шкоднікаў знайшлі ў МТС — там яны ламалі ці дрэнна рамантавалі трактары, зрываючы тэрміны сяўбы і ўборкі.

«У галіне сцягвання хутароў» шкодніцтва выяўлялася ў зрывах планаў сцягвання, змянення планаў для раёнаў, дзе вялося будаўніцтва дамоў для адселеных хутаранцаў, «перакідка крэдытаў з аднаго раёна ў іншы».

Шкодніцтва ў жывёлагадоўлі было накіраванае «на памяншэнне пагалоўя жывёлы, асабліва конскага пагалоўя ў БССР», зрыву плана развіцця жывёлагадоўлі, наўмысны распаўсюд інфекцыйных захворванняў. Праверка конскага пагалоўя ў БССР, праведзеная ў 1937 годзе ў сувязі з патрабаваннем ваенных ведамстваў аб мабілізацыі коней у выпадку вайны, паказала, што 30 тысяч коней у 36 раёнах хварэюць на інфекцыйную анемію. У Ветупраўленні Наркамата Земляробства імкнуліся «не падымаць панікі», аднак ветэрынараў бракавала, рэкамендацыі спецыялістаў на месцах не выконваліся: хворыя коні працавалі разам са здаровымі, іх не лячылі зыходзячы з навукова абгрунтаваных методык. Шкодніцкую «арганізацыю правых» па заражэнні жывёл знайшлі ў Віцебскім ветэрынарным інстытуце. Такая ж арганізацыя была выкрытая ў Хойніцкім раёне, у якім 300 коней была ўведзеная няякасная процімянінгітная сыроватка.

Шкодніцтва пры меліярацыі Палесся тлумачылася наступным чынам: «Калі справа тычылася асушэння Палескіх балот, у чым былі зацікаўленыя палякі, бо гэтыя балоты, на думку апошніх, у час вайны з СССР могуць з'яўляцца сур'ёзнай перашкодай для прасоўвання польскіх войскаў на тэрыторыю БССР, то сябры арганізацыі ўсяляк імкнуліся і настойвалі на больш хуткім правядзенні праекта асушэння Палескіх балот у жыццё».

У прамысловасці шкодніцтва выявілася ў першую чаргу ў «дэзарганізацыі энергетыкі»: стварэнні дыспрапорцыі паміж патрэбамі ў паліве, перш за ўсё торфе і забеспячэнні мясцовым палівам энергетычных цэнтраў — БелДРЭС імя Сталіна, электрастанцый Мінска, Гомеля, Магілёва, Оршы, а таксама ў недахопе электраэнергіі. Адпаведна, шкодніцкія арганізацыі былі выяўленыя на найбуйнейшым тарфяным заводзе «Асінторф» і БелДРЭС імя Сталіна. Кіраўнікі — галоўныя спецыялісты гэтых прадпрыемстваў — былі арыштаваныя.

У 1934 годзе ў выніку чарговай рэарганізацыі сістэмы дзяржаўнага кіравання эканомікай быў ліквідаваны трэст «Белэнерга», які кіраваў будаўніцтвам электрастанцый і рабіў электрамантажныя працы. Паколькі праца электрастанцый ад гэтага толькі пагоршылася, рэарганізацыя была прызнаная шкодніцкай. Наяўнасць шкодніцкай падмацоўвалася яшчэ і тым, што тэрміны будаўніцтва і ўводу новых магутнасцяў электрастанцый зрываліся (Барысаўская і Мінская ЦЭЦ, БелДРЭС, Гомельская электрастанцыя).

За аварыі на электрастанцыях і звязаныя з імі перабоі ў падачы электраэнергіі для прадпрыемстваў на БелДРЭС быў арыштаваны галоўны інжынер Аўчыннікаў, інжынер-канструктар, дырэктар, начальнік электрацэха і кацельнага цэха. Галоўны інжынер прызнаны кіраўніком дыверсійна-шкодніцкай арганізацыі. Аналагічныя «арганізацыі» выкрытыя на Мінскай ЦЭЦ і Гомельскай электрастанцыі.

У студзені 1937 года была раскрытая «драпежніцкая група», якая займалася, як палічылі следчыя, крадзяжом прававоў і электраматэрыялаў. Паколькі дзяржаўнае нармаванне матэрыялаў ва ўмовах дэфіцыту ў маштабах краіны зрабіць без лішкаў або нястачы было ў прынцыпе немагчыма, прадпрымальныя рабочыя (у групу ўваходзілі 12 чалавек) заказвалі больш матэрыялаў, чым было патрэбна для канкрэтнай працы. Узніклыя лішкі затым рэалізоўвалі, робячы электрамантажныя працы ў... дзяржаўных установах! Варта адзначыць, што ў выніку ліквідацыі групы чарга на правядзенне дробных электрамантажных работ моцна павялічылася.

## Зрыў мадэрнізацыі

Кіруючыся «прамымі ўказаннямі польскага консульства ў Мінску», быў сарваны план індустрыялізацыі БССР — з-за «зацяжак будаўніцтва па большасці найважнейшых аб'ектаў і змярцвення капіталаўкладанняў»: Ацэтоннага завода ў Быхаве, кацельнага завода ў Магілёве, Старобінскай электрастанцыі, фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску, Акадэміі Навук, Аршанскага льнокамбіната, Мінскай абутковай фабрыкі, Магілёўскага трубаліцейнага завода, механічнага цэха Мінскай металургічнай фабрыкі імя Кірава, Гомельскага тлушчавага камбіната...

Адказная за гэта «шкодніцкая арганізацыя» была знойдзеная ў Дзяржплане. Яе ўдзельнікі «памяншалі штогод фінансаванне капітальнага будаўніцтва большасці прадпрыемстваў, складалі перабольшаныя планы забеспячэння будоўляў будматэрыяламі».

З-за правядзення маштабных аперацый па будаўніцтве жылля, звязаных з перасяленнем жыхароў хутароў у вёскі, інтэнсіфікацыі будаўніцтва ваенных аб'ектаў у 1936–1938 гадах у БССР стаўся дэфіцыт цэглы. Для пашырэння яе вытворчасці было прынятае рашэнне не будаваць новыя заводы (лічылася, што попыт на цэглу носіць часовы характар), а прыбудаваць да ўжо наяўных штучныя сушылкі. Ідэя сушылак не была дастаткова прадуманай, а яе канкрэтнае ўвасабленне ў жыццё аказалася непрыдатным — цэгла выходзіла даражэй і вельмі дрэннай якасці. Шкодніцкую арганізацыю выявілі на Віцебскім цагляным заводзе № 13, дзе бракаванай цэглы выраблялася асабліва шмат.

На будоўлях не хапала не толькі цэглы і вапны, але і лесаматэрыялаў. Таму ў снежні 1937 года была выкрытая шкодніцкая арганізацыя ў трэсце «Лесбел». Падрыўная дзейнасць была накіравана «на зрыў лесавывазкі і нарыхтоўкі, драпежніцкай распрацоўкі лесу і дэзарганізацыі лесаапрацоўваючай прамысловасці БССР». Расследаванне выявіла вялікую колькасць фактаў безгаспадарчасці: дубовы лес пусцілі на дровы (Рэчыца, Гомель), алешыну і дуб — для вытворчасці бочак (Клічаўскі лясгас) і гэтак далей. Дрэннае планаванне, адсутнасць механізацыі пры вывазе лесу, «вычварэнства з метадаў Стаханаўскага руху» (брыгадзірам

# Шкоднікі паўсюль



прыпісвалася праца брыгады), парушэнне тэхнікі бяспекі і рост траўматызму (3200 выпадкаў за 1936 год, з іх 26 — са смяротным зыходам і 34 — з інваліднасцю) — усё гэта было прадстаўлена як вынікі злачыннай дзейнасці кіраўнікоў трэсту і дырэктараў лягсасаў Нараўлянскага, Слуцкага, Чэрыкаўскага раёнаў. Было знойдзенае таксама «схаванае хабарніцтва», калі дырэктары лягсасаў пад выглядам аплаты расходаў па вярбоўцы працоўнай сілы плацілі значныя грошы кіруючым работнікам раёнаў — як сакратарам райкамаў, так і сакратарам выканкамаў.

У зрыве развіцця харчовай прамысловасці на базе мясцовых харчовых рэсурсаў таксама вінавацілі ўдзельнікаў ААП. У першую чаргу гэта тычылася перапрацоўкі гароднiны і ягад. «Саматужныя заводы, пабудаваныя Белплодгароднінай і Белкааплодгароднінай, былі арганізаваны па-шкодніцку і выпускалі паўфабрыкаты настолькі дрэннай якасці, што спажывец не браў іх», — тлумачылі спецслужбы прычыны арыштаў, праведзеных у гэтых трэстах.

Да чэрвеня 1938 года шкодніцтва ў сістэме наркамата харчовай прамысловасці было выяўлена таксама ў «халадзільнай» і «мясной» прамысловасці, хлебапячэнні, прамысловым і жыллёвым будаўніцтве. Прадпрыемствы мясной прамысловасці былі «засмечаныя» злодзеямі і жулікамі, якія займаліся проста крадзяжамі. У «галіне хлебапячэння» шкодніцтва выяўлялася ва ўкладванні сродкаў у будаўніцтва саматужных хлебапекарняў на шкоду будаўніцтву механізаваных хлебазаводаў. У выніку быў створаны «разрыў» паміж магчымасцямі вытворчай базы і патрэбамі насельніцтва і арміі ў 300 тон хлеба на суткі.

Невыкананне планаў, аварыі, брак на заводах таксама з'яўляліся дзеяннямі шкоднікаў.

### Шкоднікі — перашкода дабрабыту

Афіцыйная савецкая ідэалогія сцвярджала (як, дарэчы, і сёння), што савецкая дзяржава адной з найважнейшых сваіх задач лічыць задавальненне патрэбаў насельніцтва і рост дабрабыту людзей. Паколькі ў канцы 1930-х гадоў жыццё савецкіх людзей усё яшчэ адрознівалася ў горшы бок ад 1913 года, адстаўванне тлумачылі інтрыгамі шкоднікаў. Маўляў, кіраўніцтва краіны прымае правільныя рашэнні, а шкоднікі замінаюць жыць камфортна.

Шкодніцкія арганізацыі знайшлі на фабрыках, якія выпускалі непрыгожую і нязручную вопратку і абутак. Шкоднікаў з ААП абвінавацілі ў зрыве будаўніцтва Віцебскай (будавалася 4 гады, затым была разбурана з-за няправільна складзенага праекта) і Мінскай лазняў, пральні ў Магілёве, распачатай, але не скончанай рэканструкцыі і пашырэння сеткі мінскага водапровода. Чэкісты раскрылі «драпежніцкую групу», якая займалася крадзяжом вадаправодных і каналізацыйных труб і «іншых вострадэфіцытных тавараў». Групу назвалі Оксенкруг — па прозвішчы братоў, якія кіравалі крадзяжамі. Насельніцтва, якое не пераставала скардзіцца на бытавыя нязручнасці, з разуменнем паставілася да таго, што шкоднікі, вінаватыя ў гэтых нязручнасцях, былі пакараны.

Скаргі і нараканні выклікала медыцынскае абслугоўванне. Таму шкодніцтва знайшлі «па лініі выкліку масавых інфекцыйных захворванняў, зрыву лячэбных мерапрыемстваў у рэспубліцы, галоўным чынам, на вёсцы, сабатажу мерапрыемстваў па ахове мацярынства і дзяцінства і зрыву падрыхтоўкі новых кадраў». У 1937–1938 гадах шкодніцкая арганізацыя была ліквідаваная ў сістэме наркамата аховы здароўя. Адным з кіраўнікоў арганізацыі з'яўляўся намеснік наркама Плаўнік. Арыштаваныя таксама загадчыца сектарам аховы дзяцей Камянецкая, начальнік упраўлення аховы мацярынства і дзяцінства Кантаровіч, старшыня ЦК прафсаюза Медсантруда БССР Сакалінскі.

Дэфіцыт пісчай паперы тлумачылі дзеяннямі «драпежніцкай групы» ў сістэме Белканторы «Союзпаперасбыта». У лютым 1937 года былі арыштаваныя загадчык базай Засялевіч, бухгалтар, экспедытар, рабочыя — усяго 8 чалавек.

Галоўнымі следствамі шкодніцтва ў гандлі і забеспячэнні былі прызнаныя «стварэнне штучных цяжкасцяў у забеспячэнні насельніцтва хлебам, прадуктамі харчавання і таварамі шырокага спажывання». Шкоднікам інкрымінавалі наяўнасць вялізных чэргаў. Да шкодніцтва ў гандлі таксама былі прылічаныя скарачэнне капіталаўкладанняў у гандаль, малая колькасць гандлёвых кропак у рабочых раёнах, засмечанасць «гандлёвых кадраў сацыяльна чужымі і варожымі элементамі». Арышты былі праведзеныя ў Наркамаце гандлю (арыштаваныя Гурэвіч, Барзунов, Макаў, Жогаў). Ячэйка «арганізацыі правых» была знойдзеная ў Галоўгандлі БССР. Арыштаваныя яго начальнік Шароў, дырэктар Мінскага трэста рэстаранаў і кафэ Пятроў.

Шкодніцтва было выкрытае і ў галіне дарожнага будаўніцтва, з-за «адсутнасці забеспячэння кантролю за будаўніцтвам і рамонтам дарог нізавой сеткі». Да шкоднікаў прылічылі начальніка Белдзяржбуда Мудрагеленка, сакратара ЦК КП(б)Б па транспарце Іванова, якому таксама інкрымінавалі кіраўніцтва шкодніцтвам пры будаўніцтве дарог абароннага значэння.

### Дайшлі да верху

Шкодніцтва ў фінансавай сферы, як лічылі супрацоўнікі НКУС БССР, праводзілася «па дзвюх асноўных лініях — у фінансаванні народнай гаспадаркі і ў правядзенні падатковай палітыкі», а таксама «па лініі дзяржаўнага бюджэту і дзяржаўных выдаткаў». Як шкодніцтва было названае прымяненне фінансавых санкцый да гаспадарчых арганізацый, асабліва калі гэта выклікала невыкананне вытворчых планаў, затрымку зарплаты, гвалтоўнае адабранне маёмасці незаможных падаткаплацельшчыкаў — усё, што выклікала вялікую незадаволенасць насельніцтва.

Аднак найбольшае нараканне чэкістаў было звязанае з фінансавымі планамі, у якіх даходы суб'ектаў гаспадарання былі моцна завышаныя. Істотна, што спецорганы цікавіліся прычынамі завышэння. Яны адзначалі, што завышэнне не прадугледжвала павышэння якасці прадукцыі, мадэрнізацыі вытворчасці. Шкодніцтвам было таксама названа прыпыненне фінансавання трэстаў, прадпрыемстваў у выпадку невыканання імі планавых заданняў. Асабліва істотныя маштабы шкодніцтва былі ў абласцях торфаздабычы і будаўніцтва, дзе таксама дзейнічалі арганізацыі ААП. «З боку ж выканання дзяржаўнага бюджэту ўсё выглядала добра, бюджэт выконваўся, і ў Наркамфіна ствараласся рэпутацыя моцнага, выразнага наркамата», — адзначалі следчыя НКУС.

Варта заўважыць, што да шкодніцкіх дзеянняў было аднесенае неразгляджанне «шматлікіх скаргаў, якія паступаюць у НКФ, Саўнаркам і асабліва ў ЦВК БССР», перасылка іх «на месцы для рэагавання тым жа асобам, на якіх яны былі напісаныя. Скаргі або ляжалі без руху, або хадзілі па ўстановах на працягу многіх не толькі месяцаў, але і гадоў». Следчыя справядліва палічылі, што такія дзеянні чыноўнікаў стваруюць «кадры» пакрыўджаных «савецкай уладай сярод насельніцтва БССР». Рэпрэсіі супраць чыноўнікаў кіруючага звяна як у цэнтры, так і ў раёнах павінны былі сведчыць аб аднаўленні справядлівасці ў савецкім грамадстве.

Ва ўдзеле ў «трацкісцкай арганізацыі» былі абвінавачаныя дзеючы пракурор БССР Глезераў і яго папярэднік Кузьмін, старшыня Вярхоўнага суда БССР Кудзельскі, шэраг работнікаў рэспубліканскай пракуратуры (Шыфрын, Мерынгоф і інш.), раённыя пракуроры ў Віцебску, Полацку, Гомелі, Багушэўскім раёне і інш. Пракурораў і суддзяў абвінавацілі ў арганізацыі масавых рэпрэсій супраць працоўных, у тым, што ў БССР «была створаная такая бюракратычная сістэма работы пракуратуры і суда, што пададзеныя скаргі і рознага роду заявы ў органы пракуратуры і суда не разглядаліся, і па іх не прымалася ніякіх мер, што выклікала законнае нараканне з боку насельніцтва».




З вышэйпрыведзенага, але далёка не поўнага апісання прычын эканамічных рэпрэсій вынікае: беларуская савецкая эканоміка працавала і развівалася нездавальняюча. Кантроль з боку спецслужбаў заўсёды быў яе неад'емнай часткай. Ці была гэтая праца эфектыўнай і карыснай? Эфектыўнай — так. Каб мець больш-менш высокія тэмпы развіцця, савецкая эканоміка, па сваёй прыродзе да развіцця не здольная, патрабавала ад спецслужбаў новых выкрыццяў і рэпрэсій. Але пытанне наконт таго, якую цану павінны плаціць людзі за свае больш камфортнае жыццё і за ўмацаванне дзяржавы, застаецца адкрытым.

Нявызначаная і памяць пра «эканамічна» рэпрэсаваных — збольшага з іх мала хто рэабілітаваны, бо лічылася і лічыцца, што склад злачынства быў. А гэта дзясяткі тысяч людзей, лёсы якіх былі паламаныя дзяржавай.

Трэба ведаць і памятаць, што ў падмурку савецкага дабрабыту ляжыць Вялікі эканамічны тэрор 1937 года.

# Магілёўскае цунамі, надпісы па-нямецку і сэлфі з коцікам

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**А вы ведаеце, чым Магілёў падобны да Вены? А ці чулі вы пра тое, што большасць помнікаў горада была зруйнаваная пасля вайны? Запрашаем наведаць фотавыставу «Невядомы Магілёў. Вяртанне», прысвечаную 750-годдзю горада.**





СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ. 25 КРАСАВІКА 1942 Г.

На выставе прадстаўлены фота часоў Другой сусветнай вайны, у асноўным зробленыя нямецкімі салдатамі, з фондаў музея гісторыі Магілёва і прыватных збораў Давіда Алега Лісоўскага (арыгіналы і павялічаныя копіі). Некаторыя здымкі ўжо экспанаваліся ўвесну.



Як распавёў дырэктар музея Аляксей Бацюкоў, на цяперашняй выставе — каля траціны новага матэрыялу. Для магілёўцаў старэйшага ўзросту гэта магчымасць узгадаць горад свайго маленства, для маладзейшых жыхароў — далучыцца да гісторыі.

Адзін з наведвальнікаў, фатограф Васіль Цітоў, падзяліўся ўражаннямі: «Гляджу на выявы, зробленыя на Быхаўскім кірмашы, на партрэт старога, знятага там... Падобны да майго дзядулі. Той у вайну наведваў кірмаш у горадзе, прыязджаў з-пад Магілёва па соль...»

Што адчувалі партызаны і падпольшчыкі за хвіліну да смяротнага пакарання? Дзякуючы здымку невядомага фатографа можна паглядзець на іх твары.

Як выглядалі магілёўскія храмы, ужо паўразбураныя, але яшчэ велічныя, да таго, як іх канчаткова разбурылі бальшавікі? Як праходзілі баі на Буйніцкім полі ў ліпені 1941-га? Яны так уразілі пісьменніка, а тады ваеннага журналіста Канстанціна Сіманава (таго самага, які пісаў «Жди меня, и я вернусь, только очень жди...»), што, згодна з яго апошняй воляй, у 1979-м па Буйніцкім полі быў развеяны яго прах. Абарона Магілёва адлюстраваная ў рамане Сіманава «Жывыя і мёртвыя» і ў дзённіку «Розныя дні вайны», імем пісьменніка названая адна з вуліц горада.

А як разлілася Дубравенка ўвесну 1942-га? Вада па самыя вокны драўляных хатак, крытых гонтай. Тую красавіцкую паводку нават назвалі «магілёўскім цунамі».

Такія знаёмыя кінатэатры «Радзіма» і «Чырвоная зорка», з нязвычнымі надпісамі па-нямецку і ў атачэнні старых дамоў ды рэтрааўтамабіляў. Першыя паказы кіно ў Магілёве прайшлі яшчэ да Першай сусветнай вайны, у 1903 годзе. У 1930-м быў пабудаваны кінатэатр «Чырвоная зорка», у архітэктуры якога выкарыстаны элементы канструктывізму. Праз 8 гадоў была ўзведзена «Радзіма» — адзін з першых у беларускім савецкім дойлідстве будынкаў з класічнымі формамі і дэкорам. Па здымках можна ацаніць якасць аднаўлення архітэктурных помнікаў і блізкасць цяперашніх пабудоў да першапачатковых. Абодва кінатэатры перажылі вайну амаль без пашкоджанняў і патрабавалі ў асноўным касметычнага рамонту.

Дом Саветаў (праект архітэктара Лангбарда), амаль копія мінскага, пасярод ваеннай разрухі і з нямецкім салдатам на матацыкле на пярэднім плане. Перад далучэннем Заходняй Беларусі да БССР у Магілёў збіраліся перанесці сталіцу рэспублікі, для чаго і пабудавалі копію мінскага Дома ўраду. Маўляў, Мінск знаходзіўся занадта блізка ад заходняй мяжы — усяго за 30 кіламетраў.

Ад таго ўладкавання Магілёва «пад сталіцу» застаўся яшчэ будынак Беларуска-расійскага ўніверсітэта (у 1938-м — школа НКУС). Планавалася, што горад «ачысцяць» ад помнікаў мінулага: ратушы, дамоў губернатара, губернскага праўлення, архіерэйскага палаца, Багаяўленскага і Спаскага сабораў, Трохсвяціцельскай, Мікалаеўскай і Васкрасенскай цэркваў, касцёла святога Антонія...

Аднак у 1938 годзе пазбавіліся толькі ад Іосіфаўскага сабора, што быў узведзены ў гонар сустрэчы імператрыцы Кацярыны II з аўстрыйскім імператарам Іосіфам II у 1780-м. Доўгі час у Магілёве бытавала гарадская легенда, быццам бы копія Іосіфаўскага сабора, Кацярынінская царква, ёсць у Вене. Аднак гэта няпраўда.

Частка помнікаў магілёўскай архітэктуры, што ацалелі дзякуючы пачатку Другой сусветнай, была зруйнаваная ўжо ў пасляваенныя гады. Але гэта іншая і вельмі сумная гісторыя.

Ахвочыя да інтэрактыву могуць атрымаць яго па поўнай праграме нават без экскурсавода: сканаваць смартфонам QR-код, выйсці на сайт выставы, паглядзець віртуальную экскурсію з параўнаннем старых і сучасных фота Магілёва (ці прайсці яе ў рэале, кіруючыся падказкамі). Дасяжны таксама тэст «Ці пазнаеш Магілёў на фота ваеннага часу?»

Ну, а самыя зацікаўленыя могуць прайсці квэст ад Давіда Алега Лісоўскага. Ён пачынаецца з задання адшукаць на выставе фота, што не адпавядае ёй тэматычна, зрабіць з ім сэлфі і выслаць Лісоўскаму.

Увага, зараз будзе спойлер! Спачатку я падумала: «Ну, што можа быць больш «левым» на гістарычнай выставе за выяву коціка?» і засэлфілася з ёй. Але потым адшукалася фота 1918-га года, што не адпавядае асноўнай канцэпцыі гістарычна. Перыяду Першай сусветнай вайны будзе прысвечаны наступны супольны праект Музея гісторыі Магілёва і спадара Лісоўскага ў наступным, зноў-такі ў пэўным сэнсе юбілейным, годзе.

Давід Алег Лісоўскі нарадзіўся ў Магілёве, цяпер жыве ў Германіі. Купляе там на аўкцыёнах старыя выявы роднага горада і шчодра дзеліцца набыткамі з беларусамі. «У нас добра наладжанае супрацоўніцтва, — кажа старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч. — Алег сканue тое, што знаходзіць, і перасылае нам, мы таксама дзелімся адшуканым у архівах. Для горада гэтая выстава — вялікая падзея. Можа нават падацца, што сёлета юбіляр-Мінск быў абсканы юбілярам-Магілёвам, але гэта не зусім так. Падобныя праекты праходзілі і ў Мінску, проста засталіся незаўважанымі, бо прыпалі на Дзень горада, які сёлета апынуўся трохі ў цені фэсту Lidbeer».

Трэба сказаць, што — у адрозненне ад Мінска — у Магілёве пра юбілей горада на працягу ўсяго года нагадваюць адпаведныя надпісы. Да таго ж у самых нечаканых месцах: над вакенцам рэгістратуры зубной паліклінікі, на дзвярах прадуктовай крамы, у вакне кавярні...

Алег Давід Лісоўскі займаецца таксама перакладам гістарычных крыніц, што ўтрымліваюць звесткі пра Магілёў. Неўзабаве выйдзе кніга са зборам гэтых тэкстаў. Акрамя таго, спадар Алег мае канал на Youtube, таксама прысвечаны гісторыі Магілёва. А таксама піша гістарычна-прыгодніцкі раман, дзеянне якога адбываецца ў Магілёве.

Фотавыставу можна паглядзець у Магілёве да 3 снежня ў выставачнай зале па вуліцы Болдзіна, 1.

**Фота аўтара**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1044

Падпісана да друку 03.11.2017. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.